ЛіМ
ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

8 ЖНІЎНЯ 2003 г. № 32/4218

# «ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ — 2003»

5-15



# Помнік на магіле МАКСІМА

*Сёння адзін з помнікаў Максіму Багдановічу стаіць на цудоўным месцы ў Мінску, перад Оперным тэатрам. Але ў свой час нацыянальнай інтэлігенцыі давялося змагацца за гэтую кропку. Бо гарадскія (а дакладней, рэспубліканскія) улады хацелі паставіць помнік паэту ў Чыжоўцы ці ў Серабранцы, а ў якасці лепшага варыянту прапаноўвалі паставіць бронзавага Максіма перад брамаю карчмы ў Траецкім прадмесці. А месца перад Оперным хацелі зарэзерваваць для архітэктара Лангбарда, аўтара праекта гэтага будынка і шэрагу іншых, што ў 30-я гады ўтварылі новы вобраз Мінска. Лангбард — асоба, вартая ўшанавання, але незразумела, навошта было супрацьстаўляць яго Багдановічу?*

*Стаіць помнік-бюст Багдановічу ў Місхоры. Рабілі яго беларусы для Ялты, але мясцовыя ўлады не далі дазволу паставіць яго ў горадзе. Вось і давялося везці бюст у Місхор, на "суверэнную" беларускую тэрыторыю — у дзікі парк, што атачае санаторый "Белоруссия".*

2

# КОЛА ДЗЁН

**Крыху пахаладнела і гэта якраз дарэчы, бо ў нашай краіне пачалася гарачая пара — жніво.**

## ІНІЦЫЯТЫВА ТЫДНЯ

Памятны знак у гонар літары "Ў" будзе ўстаноўлены ў Полацку да Дня беларускага пісьменства. Пра гэта паведамілі ў Полацкім гарадскім упраўленні архітэктуры і будаўніцтва. Ініцыятыву прафесара Пятра Семчанкі аб устанаўленні помніка літары, якая існуе толькі ў беларускім алфавіце, падтрымаў Полацкі гарвыканкам.

## УШАНАВАННЕ ТЫДНЯ

За вялікі ўклад у адраджэнне духоўна-маральных традыцый і ўмацаванне дружбы і супрацоўніцтва паміж народамі Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Уладзімір Пуцін узнагародзіў Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі ордэнам "За заслугі перад Айчынай" IV ступені. Узнагароджанне адбылося падчас знаходжання Уладыкі Філарэта ў Расійскай Федэрацыі, дзе ён прадстаўляў Беларускую праваслаўную царкву на царкоўна-дзяржаўных урачыстасцях з нагоды 100-годдзя кананізацыі прападобнага Серафіма Сароўскага.

## ПАДАРАЖАННЕ ТЫДНЯ

Расійскія кампаніі НГК "Ітэра" і ААТ "Транснафта" з 1 жніўня на 10 працэнтаў павысілі кошт паставак прыроднага газу ў нашу краіну. Адпаведна, у жніўні будуць перагледжаны тарыфы на "блакітнае паліва" і для спажыўцоў. Згодна з кантрактам, у гэтым годзе мы купляем у НГК "Ітэра" і ААТ "Транснафта" 6,3 і 1,05 мільярда кубаметраў газу, адпаведна. Агульны аб'ём паставак расійскага прыроднага газу складае 18,5 мільярда кубаметраў.

## ХВАЛЯ ТЫДНЯ

Пачынаючы з 28 ліпеня, адзін з выпускаў навін па "Альфа Радио" выходзіць на беларускай мове. Беларускія выпускі навін выходзяць на хвалі радыёстанцыі штодня ў 15.45. З верасня "Альфа Радио" плануе пашырыць беларускамоўнае вяшчанне.

## РАШЭННЕ ТЫДНЯ

Кіраўніцтвам Мінскага метрапалітэна прынята рашэнне змяніць радыё-інфармацыю, якая гучыць у цягніках. Цяпер замест "станцыі плошча Незалежнасці", абвяшчаецца "станцыя плошча Леніна". Такое рашэнне прынята ў сувязі з тым, што пасля перайменавання на пачатку 1990-х гадоў сталічнай плошчы Леніна ў Незалежнасці, афіцыйнага рашэння аб перайменаванні станцыі метро не было.

## ПЛАНЫ ТЫДНЯ

У Мінску ў наступным годзе з'явіцца Беларускі драматычны тэатр Беларускай арміі. Яго адкрыццё плануецца прымеркаваць да 23 лютага — Дня абаронцы Айчыны. Тэатр размесціцца ў правым крыле Цэнтральнага Дома афіцэраў, дзе цяпер праводзіцца рамонт.

## ПРАГНОЗ ТЫДНЯ

Далейшае пацяпленне клімату пагражае Еўропе стратай многіх малых рэчак. Толькі ў нашай краіне ў Віцебскай вобласці да сярэдзіны XXI стагоддзя можа знікнуць 240 малых рэчак, агульная працягласць якіх усяго паўстагоддзя таму перавышала 9 тысяч кіламетраў. Такі несуцяшальны прагноз зрабілі члены навукова-экалагічнай экспедыцыі БДУ.

## ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

Хутка нашу сталіцу ўпрыгожыць новы 16-павярховы небаскроб са шкляной пірамідай на даху. Ён узнімецца над горадам у раёне вуліцы Леніна і Кастрычніцкай. Будаўніцтва гмаха інвесціруе канадская фірма. У будынку будзе сучасны бізнес-цэнтр, дзе размесціцца офіс на 700 працоўных месцаў, аўтасалон, рэстаран, гандлёвы пасаж, боўлінг-цэнтр, більярдная, а таксама паркінг на 418 аўтамабіляў.

## РАЗГЛЯД ТЫДНЯ

Магчыма, у нашай сталіцы яшчэ да 2010 года з'явіцца метрамост, бо ўжо цяпер метрабудаўнікамі разглядаецца магчымасць выхаду блакітных экспрэсаў на паверхню зямлі на ўчастку праектуемай падземкі паміж станцыямі "Інстытут культуры" і "Пятроўшчына". На гэтай трасе даволі складаныя грунтовыя ўмовы, з-за чаго сёння немагчыма ажыццявіць праходку з дапамогай тэхнікі, якая ёсць у арсенале будаўнікоў.

ІМПРЭЗЫ

# ПАРУШАЛЬНІКІ ЗАЦІШША

***"А ці ў сталіцы мы жывём?" — калі-нікалі ўздыхаюць мінскія меламаны, слухаючы навіны далёкага ды блізкага культурнага жыцця. Шмат дзе — фестывальны нон-стоп, гастролі знакамітых ці проста добрых акадэмічных выканаўцаў, візіты музычных тэатраў... У нас — маўчанне.***

Зрэшты, летняе зацішша ў філарманічным жыцці сталіцы, — як ужо ведаюць чытачы "ЛіМа", раз-пораз парушалася нядзельнымі дзённымі (бясплатнымі!) канцэртамі на Залатой Горцы. У тры выбітныя імпрэзы ўвасобіўся тут супольны праект музычнага таварыства "Ліра" ды прадзюсера Арыны Вячоркі.

Праект, названы "Старадаўняя музыка Беларусі", прыцягнуў увагу невыпадковай публікі: усцешна было бачыць у камернай зале (касцёле Святога Роха) адухоўленыя інтэлектуальныя маладыя твары, прасветленыя і ўдумлівыя дзіцячыя вочы, мудрыя і высакародныя аблічы пажылых пар. І асабліва радавала, што гэтай невыпадковай публікі нават у разгар сонечнага (ці навальнічнага) летняга нядзельнага дня стае, каб не абцяжараныя прэстыжнай рэкламай, некамерцыйныя канцэрты праходзілі амаль з аншлагам.

Час то плыве, то ляціць, наближаючы восень, а значыць — і новы філарманічны сезон. Ды застаюцца ў душы і ў свядомасці летнія святлінкі тых залатагорскіх канцэртаў, што спраўдзілі свой эстэтычны, асветніцкі, патрыятычны чын.

Часам прыгадваецца, якой светлаю хваляй атуліла сцішэлых слухачоў моцнае палётнае сапрана Тамары Рэмез, падтрыманае і адценёнае то ёмістым ад густых фарбаў, то празрыста-вытанчаным суправаджэннем арганіста Віктара Кісцяня (у рэгістроўцы адчувалася... логіка духоўнай пэўнасці, эмацыйнай раўнавагі, спакою).

Прыгадаеш калі-нікалі выступленне баранавіцкага гурта "Lituus", добра вядомага пад ранейшай назвай "Кантраданс". Адмысловы сцэнічны вобраз: аксамітна-карункавая стылізацыя сярэднявечных строяў; копіі аўтэнтычных драўляных духавых інструментаў эпохі Барока (падарунак германскіх сяброў), пра якія акадэмічныя музыкі ў беларускай сталіцы могуць толькі марыць. Дзівосны і пакуль нязвыклы для нашага слухацкага досведу тэмбр гэтых інструментаў, які робіць асабліва кранальным гучанне знаёмых, нават папулярных старонак атрыманых у спадчыну "сшыткаў": так званага Полацкага ды Віленскага. А гэты незабыўны стараеўрапейскі танец, утвораны спалучэннем прыгожай, надзіва сучаснай, проста неарнаментычнай кантылены і другой тэмы — рытмічнай, дзе ў мяккіх барабанных ударах пазнаеш... пульсацыю сэрца!



Сапраўдны цуд свету беларускага — капэла Алеся Лася, у асобе якога з першых імгненняў "канцэртнага знаёмства" раскрываецца чалавек Адраджэння: краязнавец, філасоф, гісторык, асветнік, музыкант, этнограф, рыцар-абаронца нацыянальнай культуры. Дуда ў яго прамаўляе старажытным голасам Сусвету, а скрыпка то жаліцца на плячы, то пяе па-народнаму, да сэрца прытуленая. Не канцэрт — вандроўка ў часе і ў прасторы, дзе сустрэнеш і легендарны смык беларускі, і цымбалы некупленыя, цёплымі рукамі робленыя, цёплым "гартанным" тэмбрам адметныя. І вакал тут — шчыры і чысты, як спеў прыроды.

Яшчэ адно адкрыццё залатагорскага лета — "Brevis", ансамбль старадаўняй музыкі, створаны выпускніком БДУ культуры Паўлам Сурагіным на базе агульнаадукацыйнай мінскай сярэдняй школы № 13.



Гэты гурт існуе 5 гадоў. Летась ён удзельнічаў у "Славянскім базары", быў адзначаны на конкурсе юных выканаўцаў. Сёлета "Brevis" (дарэчы, гэтым лацінскім тэрмінам называюць ноту доўгага гучання) дэбютаваў на ІІ фестывалі камернай музыкі "Заслаўе—2003" і меў гучны поспех. Летам стаў жаданым госцем Паставаў (Міжнароднае свята "Звіняць цымбалы і гармонік").

Сольная праграма ансамбля ў праекце "Старадаўняя музыка Беларусі" ўключала і сюрпрызы: апроч фрагментаў з "Полацкага сшытка" і п'ес В. Длугарая можна было пачуць Моцарта і Гендэля, англійскі танец і тэму з папулярнага саундтрэка...

Праект музычнага таварыства "Ліра" набудзе новае дыханне, калі міне час вакацый. Мы абавязкова зноў сустрэнемся ў зале на Залатой Горцы, каб паслухаць. жывую экалагічна чыстую музыку. А пакуль, як сказаў арганізатар і вядучы канцэртаў Віктар Кісцень, — будзем слухаць Цішыню.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*НА ЗДЫМКАХ: гурт "Brevis", Капэла Алеся Ляся.*

**Фота М. ЗАМУЛЕВІЧА і В. КІСЦЯНЯ**

# ПОМНІК НА МАГІЛЕ МАКСІМА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**Магчыма, многія памятаюць дыскусію канца 80-х — пачатку 90-х гадоў па пытанні, ці трэба пераносіць на Радзіму прах паэта. Прыхільнікі гэтай ідэі спасылаліся на думку самога Максіма, выказаную ў ягоных вершах. Тыя, хто быў супраць, што не варта трывожыць нябожчыка казалі: "Хай, мауляў, ляжыць чалавек у той зямлі, на якой было наканавана памерці. Хай будзе за межамі айчыны святое для беларусаў месца".**

**Цяпер у гэтай дыскусіі пастаўлена кропка. У 1999-м годзе адбыўся конкурс на лепшы праект надмагілля Максіма Багдановіча ў Ялце. Лепшай была названа прапанова скульптара Льва і Сяргея Гумілеўскіх і архітэктара Мікалая Жлабо. Гэтая творчая група працавала над помнікам з 1999 па 2003 год. Сёлета ў чэрвені паўстаў помнік Максіму Багдановічу на Ялцінскіх старых могілках.**

**Ён выкананы з светла-шэрага граніту. А паколькі помнік стаіць на перападзе вышынь, яго давялося ўмацаваць падпорнай сценкай. На валуне, які з'яўляецца яе часткай, выбіты словы:**

***"Кожную ночку на зорку дзівіцца***
***Буду ў далёкім краю".***
**М. Багдановіч.**

**У комплекс помнікаў уваходзіць надмагільная пліта з надпісам: "Беларускі паэт Максім Багдановіч 1891-1917", круглая класічная калона, бюст паэта, чыгунная агароджа, арнаментаваная васількамі.**

**Для бацькі і сына Гумілеўскіх гэта не першы зварот да вобраза Максіма Багдановіча, але відавочна, што гэты твор стане знакавым у творчасці абодвух майстроў.**

**П. В.**

**КАНФЕРЭНЦЫІ**



# СУСТРЭЧА Ў ЗАЛЕССІ

Заўсёды, калі прыязджаю да сяброўкі ў Залессе, што на Смаргоншчыне, спяшаюся наведаць былы маёнтак вядомага дзяржаўнага дзеяча і кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага. Прынамсі, пешшу прайсці па цудоўнай алеі са старымі таполямі. Шкада толькі, што маёнтак вядомага кампазітара знаходзіцца ў заняпадку, ягоная рэстаўрацыя доўжыцца ўжо шмат гадоў. І таму Міжнародная канферэнцыя "Гістарычныя сядзібы Беларусі: стан і будучыня", якая 4-5 верасня будзе праходзіць у маёнтку "Залессе" падаецца, так бы мовіць, своеасаблівай іроніяй лёсу (а, можа, удачай?!). Праўда, арганізатарамі канферэнцыі (Дэпартаментам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Мінкульта РБ, Беларускім камітэтам Міжнароднай рады па помніках і гістарычных мясцінах ICOMOS, Дзяржаўным музеем гісторыі тэатральнай і музычнай культуры, а таксама Нацыянальным агенцтвам па турызме, Смаргонскім райвыканкамам), якая праводзіцца пад эгідай ЮНЕСКА, будуць абмяркоўвацца набалелыя для Беларусі пытанні, а менавіта: шляхі прыцягнення сіл і сродкаў для рэстаўрацыі сядзіб, уключэнне іх у сістэму культурнага турызму. Несумненна, адным з галоўных пытанняў сустрэчы ў "Залессі" (а на Смаргоншчыну прыедуць таксама эксперты з Польшчы, Літвы, Латвіі, Расіі) стане пытанне аб рэабілітацыі і ўключэнні ў сістэму культурнага турызму сядзібы М. Агінскага ў якасці пілотнага праекта будучай нацыянальнай праграмы рэабілітацыі гістарычных сядзіб.

В.Б.



***НА ЗДЫМКАХ:** так выглядала сядзіба Агінскага ў сярэдзіне 90-х мінулага стагоддзя.*

# «МАЛАДОСЦЬ» № 7

**Чарговы нумар часопіса "Маладосць" адкрываецца вершамі Наталлі Дубоўскай. Паэзія на старонках маладзёжнага выдання таксама прадстаўлена новымі творамі Ірыны Багдановіч, Мар'яна Дуксы, Паўла Гаспадыніча, Іны Амельчанкі і Надзеі Падрэз.**

**Проза "Маладосці" заўсёды вылучалася сваёй жанравай разнастайнасцю. На гэты раз чытачу прапануюцца працяг рыцарскай аповесці Анатоля Бутэвіча "Каралева не здраджвала каралю...", аповесці-фарс Зінаіды Дудзюк "Пакаранне для Ноны" і фантастычнае апавяданне Віталіі Багун "Фея".**

**Несумненна, зацікавіць аматараў прыгожага пісьменства і працяг публікацыі дзённіка пісьменніка Вячаслава Адамчыка.**

**"Высока нашы зоры" — пад такой назвай змешчаны творчы партрэт Людмілы Рублеўскай, зроблены Наталляй Дзянісавай. "Лагойшчына — паэтычная калыска Янкі Купалы" — гэтыя словы з'яўляюцца своеасаблівым лейтматывам артыкула Міколы Гіля "Узрошчаны над Гайнай". Тэме самагубства прысвечана інтэрв'ю Ірыны Занеўскай з доктарам медыцынскіх навук Сяргеем Ігумнавым.**

## НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ

У разгары лета, і Беларускае радыё праводзіць адмысловую акцыю "Лета з Беларускім радыё".

Не засталіся ўбаку і літаратурныя перадачы. Так у мінулым выпуску "Літаратурнага праспекта" журналіст Маргарыта Прохар гутарыла з пісьменнікамі Міколам Мятліцкім, Віктарам Праўдзіным, Раісай Баравіковай аб тым, як яны праводзяць летні адпачынак. Цікавым плануецца быць і наступны "Літаратурны праспект", які, як звычайна, будзе весці паэт Алесь Бадак. Пачатак у суботу, у 10.30.

Традыцыйна па аўторках, чацвяргах, пятніцах у эфіры "Брама", "Сентыментальнае паляванне", "Палітра". Пачатак у 22.30. У звыклы час пасля паўночы ў эфіры і "Кароткія гісторыі".

На канале "Культура" ў "Клубе дамаседаў" працягваецца чытанне ў прамым эфіры рамана Янкі Брыля "Птушкі і гнёзды".

У нядзелю — "З фондаў радыё" Н. Хікмет "Дзівак". Спектакль. І. Мележ "Гарачы жнівень". Інсцэніраванае апавяданне.

Н. К.

## КНІГА ПРА ПАЛЕССЕ




У Пінску выйшла ўжо другое выданне кнігі Аляксея Дуброўскага "Палігон". Кніга складаецца з артыкулаў, якія напісаў аўтар на працягу 20 гадоў.

Звычаі палешукоў, гісторыя краю, праблемы звязаныя з меліярацыяй Палесся, этнаграфічныя экспедыцыі — усё гэта ёсць на старонках палескага дзённіка.

З Палессем так або інакш былі звязаныя многія знакамітыя людзі: Авідзій Назон, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, Фёдар Дастаеўскі, Эліза Ажэшка, Юрый Алеша, Якуб Колас, Напалеон Орда і шмат хто яшчэ. Пра ўсіх гэтых людзей, пра мясціны, дзе яны жылі, цікава і займальна апавядае аўтар.

На фотаздымках, змешчаных у кнізе, можна пабачыць і славутае "Герадотавае мора", і ўсыпальніцу рода Ажэшкаў, а таксама шматлікія помнікі архітэктуры ды краявіды Палесся.

"Прысвячаю сваім унукам Станіславу і Алесі" — так напісаў аўтар на пачатку сваёй працы. І сапраўды, гэтая кніга — будучым пакаленням, наступнікам, каб не забываліся на сваю гісторыю, на свой край, зберагалі ўсё напрацаванае іншымі людзьмі.

Юры ЧАРНЯКЕВІЧ



***У канцы ліпеня сябры культурна-асветніцкай ініцыятывы "Еўрапейскі Шлях" зладзілі краязнаўчую экспедыцыю па поўначы Беларусі. Шматлікія помнікі гісторыі і культуры Віцебскай вобласці сталі аб'ектамі вывучэння і фотафіксацыі. Даследаваліся сядзібныя комплексы, гістарычная забудова мястэчак і вёсак рэгіёна, экстэр'еры і інтэр'еры храмаў, стан касцельных арганаў.***



# КАБ НЕ СТРАЦІЦЬ СЯБЕ...



Выяўлена некалькі гістарычных пабудоваў, не зафіксаваных у навуковай літаратуры, запісаныя мясцовыя гісторыі і легенды. Асабліва ўразіла драматычная, амаль дэтэктыўная гісторыя будаўніцтва Сар'еўскага касцёла 1852—57 гг., які быў канфіскаваны ў фундатара пана Лапацінскага царскай уладай і пазней перададзены праваслаўнай царкве. Трагічны лёс спасціг у мінулым стагоддзі знакаміты Забельскі дамініканскі калегіум, ад якога на паверхні не засталося каменя на камені — толькі макет у школьным музеі.

Маніторынг стану захавання гісторыка-культурнай спадчыны паказаў значныя страты помнікаў архітэктуры, мастацтва і прыроды за апошнія гады з-за нядбайнага стаўлення некаторых уласнікаў і адказных чыноўнікаў. Парадаксальна, але і сёння пры рамонтных работах часта скажаецца гістарычнае аблічча помнікаў, губляецца яго мастацкаэстэтычныя вартасці і аўтэнтычнасць. Так, царква Раства Багародзіцы (былы кармеліцкі касцёл) у Глыбокім — беларускі шэдэўр 17—18 стст., у якім зліліся раннебарочная манументальнасць і познебарочная ўзнёсласць аўтарства вялікага дойліда Яна Клаўбіца, — "упрыгожаны" шклопакетамі замест старадаўняй сталяркі. Знакаміты касцёл у Слабодцы можа страціць сваю унікальную размалёўку ў стылі народнага прымітывізму. Асабліва трагічная сітуацыя сядзібна-паркавых комплексаў. Паступова ператвараюцца ў руіны флігелі Крыкалаўскай сядзібы, у кепскім стане сядзіба ў Лынтупах на Пастаўшчыне, пакінутая фактычна без гаспадара, а ў Азярцы Глыбоцкага раёна адзін з будынкаў проста разбурылі. Мясцовыя жыхары адзначаюць таксама хвалю крадзяжоў іконі прадметаў культу, што пракацілася па храмах (прыкладам, адна з найстарэйшых драўляных цэркваў краіны ў вёсцы Порплішча страціла сёлета унікальныя барочныя абразы і іншыя рэчы). Спыніць знішчэнне нацыянальнай спадчыны — актуальная праблема і абавязак для адказных асобаў і для ўсяго грамадства.

Выніковыя матэрыялы экспедыцыі "Еўрапейскага Шляху" плануецца выкарыстаць пры стварэнні новых экскурсійных маршрутаў, спецыялізаваных даведкавых сайтаў і краязнаўчых выданняў.

Аляксей ФРАЛОЎ

ФОТА Алеся ШЫПКО

*НА ЗДЫМКАХ: Макет Забельскага дамініканскага калегіума. Сар'еўскі касцёл. Інтэр'ер касцёла ў Задарожжы на Глыбоччыне. Экспедыцыя "Еўрапейскага Шляху".*





# ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ-2003

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

## НЕ ДАГЛЕДЗЕНЫ ДА КАНЦА ФІЛЬМ

Памяці любімай жонкі
Валянціны Якаўлеўны

*Далёка ў моры чуўся ветру шквал,*
*Зліваўся з крыкам чаек гул прыбоя.*
*Мы каляровы кінасерыял*
*Глядзелі, побач седзячы, з табою.*

*У серыяле час сваёй хадой*
*Шугаў, як хвалі ў бурнапеннай плыні.*
*Праходзіў лёс жанчыны маладой —*
*З вядомага рамана гераіні.*

*Яна прад Усявышнім у мальбе*
*Сваю знаходзіла ў каханні сцежку.*
*А я паглядваў збоку на цябе,*
*І толькі ўяўляў тваю усмешку,*

*Характар твой, які не быў крутым,*
*Змяшчаў усё, што жыць дапамагае.*
*І лепш чым гераіня ў фільме тым,*
*Сама ты выглядала, дарагая, —*

*Як светлы вобраз маладой красы,*
*Якую захавала ты з гадамі...*
*І раптам сціхлі ў фільме галасы,*
*Зямля і неба зможклі перад намі.*

*Знянацку цемра хмары наплыла*
*На позірк твой і на тваё дыханне.*
*Ты да канца дагледзець не змагла*
*Фільм пра сваё сардэчнае каханне.*

*Ды што кіно! Жыццёвы раптам шлях,*
*Як стужка кінафільма, абарваўся.*
*Перад табой з дачкой стаю ў слязах,*
*Нібыта разам з намі і зямля ўся.*

*Свет пацямнеў. Садок наш не відзён*
*З-за хмары, зацямніўшай квецень кветак.*
*А за акном у плыні новых дзён*
*Пачаткам жніўня даспявала лета.*

*Адчуў я сэрцам, што ў хадзе падзей*
*Патухла зорачка ў тваім паглядзе.*
*Як ты любіла дом свой і дзяцей,*
*І кветкі, што сама садзіла ў садзе.*

*Што мог адчуць хвілінаю такой*
*Стары салдат, свой боль зацяўшы ў сэрцы?*
*О, як часамі дабрыні людской*
*Бывае мала ў нас у паняверцы!*

*Здаваўся дух любові пачуцця*
*Нам казкай пра чароўнасць папялушкі.*
*А мне працягам стане для жыцця*
*Канец недагледзелай кінастужкі.*

*І хай у шчырым, светлым пачуцці*
*Няспынна час ідзе сваёй хадою.*
*Ты між людзьмі застанешся ў жыцці*
*Заўжды прыгожай, чыстай, маладою!*

**Янка ЛАЙКОЎ**

## ТОЙ БЕРАГ

*...І ўгледзелі мы, як Рака*
*гайдала ў водах цьмяных човен,*
*і нехта ў апранахах чорных*
*усіх, хто позніўся, гукаў.*

*А ў цемры нараджаўся стогн,*
*імкнуў да столі невідочнай.*
*Чакалі мы. І нашы вочы*
*пыталі марна: "Дзе ты, Бог?"*

*Шырэлі на вадзе кругі,*
*шырэў адчай на тварах шэрых,*
*і аддаляўся ў цемру бераг,*
*і нараджаўся той, другі.*

*Міналі хвілі, як гады,*
*трымцеў і нёсся ўгору пошчак,*



*і мы спыталі: "Перавозчык!*
*Куды вязеш ты нас, куды?"*

*І не пачулі мы адказ:*
*"У небыццё вязу я вас!"*

## ЛЮСТЭРКА ДУШЫ

*голас мой вершамі шэпча пра*
*Голас Яго і тайны скрозь раскрываюцца*
*і твар мой люструе душу маю*

*чым існасць сваю хаваць у спратах*
*лепш кожнай сваёй думкай словам*
*рухам набліжаць Гасподу Яго*
*о Голас і я пачынаю варушыць*
*суцэльнасць*

*і нітка мяне выводзіць*
*да крыніц чыстых*

*сонца схаваецца пасярод дня*
*я крыжамі пазначу прастору*
*спаткаю святло пасярод цемры*
*месцамі памяняю сябе і голас свой*
*стану голасам і святлом*
*і душу сваю адлюструю ў вадзе*
*і спачну знябыты самім сабою*

## БЕЛАЯ МАЛАНКА

*Белая маланка ў хату заляцела,*
*белая маланка німб бліскучы мела.*
*Белая маланка спапяліць мяне хацела,*
*але не паспела.*

*Белую маланку я схаплю аберуч,*
*белую маланку я шпурну за дзверы,*
*белая маланка скоціцца па ганку,*
*знікне ўслед за ночкай,*
*знікне ўслед за ранкам.*

*"Пачакай, маланачка!" — Закрычу я ўслед ёй,*
*і застыну раптам — анямелы, бледны.*
*На свае апаленыя гляну далані,*
*а па іх скакацьмуць белыя агні.*

**Яўген МІКЛАШЭЎСКІ**

## НЯСВІЖ

Паўлюку ПРАНУЗУ

*Нясвіж! Я чуў легенды пра яго*
*І ў сне блукаў па парках Радзівілаў.*
*У мрой юнацтва не адымеш крылаў —*
*Яны дасягнуць берага свайго.*

*...Я быў за вёскай — торф перакладаў.*
*Ён з чорнага ператвараўся ў рыжы.*
*А думкі ўсе мае былі ў Нясвіжы,*
*Пакуль іх сябар мой не перарваў:*

*— Нам трэба спешна дакументы здаць.*
*Апошні дзень! Паедзем заўтра рана, —*
*Прыбегшы, ён сказаў мне ўсхваляванa. —*
*"Адкуль?" — Са Снова. Найзручней, відаць.*

*І вось я ў педвучылішчы! Праз дзень,*
*Так, як і ў школах, першага, — заняткі.*
*Ну а пакуль знаёмствы, і дзяўчаткі*
*Шумяць вакол, як дожджык у сухмень.*

*І я чакаў дажджу, але свайго:*
*Вярталася ясенінскае слова,*
*І я даведаўся ў кнігарні Снова,*
*Што ўрэшце вершы выдалі яго.*

*Бібліятэка... Я знайшоў яе.*
*Апроч бібліятэкаркі — нікога.*
*"Ясенін ёсць?" — пытаюся з трывогай,*
*І што ж? Яна мне кніжку падае.*

*Нібы лісток бярозкі, затрымцеў*
*Я ад парыву радасці міжвольнай,*
*Ажыццяўлення прагі неадольнай:*
*Я так даўно дастаць яго хацеў!*

*Гляджу — бярозка свеціцца ўваччу...*
*"А нашага не хочаце паэта?*
*Паўлюк Прануза. Вось і кніжка гэта..." —*
*"Як не хачу! — усклікнуў я. — Хачу!"*

*І я пачаў чакаць сустрэчы з ім.*
*Паэзіяй я жыў яшчэ з маленства.*
*Таемны храм прыгожага пісьменства,*
*Выходзіць, быў у кляштары былым.*

*У кляштары былым бенедыкцінак*
*Я таямніцы слова спасцігаў,*
*І так агонь паэзіі шукаў,*
*Што вітражамі зіхацеў будынак.*

*Паэт прайшоў па вогненных шляхах*
*З гвардзейскаю зенітнай батарэяй,*
*І ў напаўзмрочных кляштарных мурах*
*Заранка слова роднага жарэе.*

*Лёс нездарма ў Нясвіж яго прывёў —*
*Не траціць тут паэзія свой голас.*
*Тут быў Рылееў і вучыўся Колас,*
*І кожны з іх тут горад свой знайшоў.*

*Тут Сыракомлі адшукаеш след,*
*Дзе, выйшаўшы са школ дамініканскіх*
*І хілячыся да хацін сялянскіх,*
*Жыў і пісаў, ім служачы, паэт.*

*Тут чаравалі першадрукары*
*І роднае адсюль панеслі слова.*
*Сышліся Музы тут невыпадкова*
*На ўтульным радзівілаўскім двары.*

*Дух Рэстаўрацыі не тут жыве,*
*Не пакараны Радзівілам Чорным?*
*Багаццем і мастацтвам непаўторным*
*Нясвіж, даўно ўсё страціўшы, слыве.*

*Быў неласкавы родны небасхіл,*
*І ворагі былі напагатове!*
*Нашчадкам запавет на роднай мове*
*Пакінуў гэты слаўны Радзівіл.*

*Паэт прыйшоў да горада свайго,*
*Ды як расстацца з добрушскай зямлёю?*
*І з Ушай як нясвіжскаю ракою*
*Зліліся хвалі Іпуці яго.*

*Не паміраюць у Нясвіжы Музы,*
*Як час віхурны ўдалеч ні імкне...*
*Нясвіж майго юнацтва для мяне*
*Яшчэ і горад Паўлюка Пранузы.*

**Святлана МІЦКЕВІЧ**

•

*Шукайце — знойдзецца адказ*
*На патаемнае пытанне.*
*Доўгачаканае спатканне*
*Аднойчы напаткае вас.*

*Зірніце — ў глыбіні нябёс*
*Мільгае зорка залатая.*
*Мажліва, менавіта тая,*
*Якой аддадзены ваш лёс...*

•

*Калі паміраюць маці,*
*душой паміраем самі.*

*Зямля, як у час шторму палуба,*
*гайдаецца пад нагамі.*

*І нават самага моцнага*
*у той час пакідаюць сілы.*

*Разгубленыя, збянтэжаныя,*
*схіляліся над магіламі.*

# ВІЛЕЙШЧЫНА. КУЛЬТУРНЫ ЛАНДШАФТ

26—27 ліпеня ў Вілейцы адбылася рэгіянальная навукова-практычная міжнародная канферэнцыя: "Культурны ландшафт Вілейшчыны". Ідэя правесці канферэнцыю належала краязнаўцу Аляксандру Зайцаву. Яе арганізатарамі сталі: Аляксандр Зайцаў, Вілейскі гісторыка-краязнаўчы музей і грамадскае аб'яднанне "Этнагістарычны цэнтр "Явар". З боку краязнаўчага музея ў канферэнцыі бралі ўдзел: дырэктар – Валянціна Лапко, і супрацоўнікі Вольга Каласава ды Хрысціна Шыманоўская. З боку "Явара" – яго выканаўчы дырэктар Ірына Клімковіч і сябра аб'яднання Людміла Дучыц. Ад суседняй, памежнай з Вілейшчынай Літвы, удзельнічалі віленскі навуковец, даследчык сакральнай культуры Усходняй Літвы Вікінтас Вайткявічус са сваёй жонкай Дайвай Вайткявіченяй, якая працуе ў фальклорным інстытуце Літвы і таксама даследуе старажытную культуру.

На канферэнцыі былі прадстаўлены даклады навукоўцаў: Эдварда Зайкоўскага, Людмілы Дучыц, Вольгі Лабачэўскай, Андрэя Прохарава, Валерыя Вінакурава; мясцовых краязнайцаў: Аляксандра Зайцава і Анатоля Рогача. Усе даклады, як і даклад Вікінтаса Вайткявічуса, былі прысвечаны адной тэме: культурнаму ландшафту Вілейшчыны – яе сакральнай геаграфіі і культуры. Вымалёўваліся еднасць і паралелі ў культавых мясцінах, пахавальных помніках гэтага рэгіёну і суседняга з ім – Усходняй Літвы. Вольга Лабачэўская расказвала пра народныя мастацкія промыслы Вілейшчыны на прыкладах і матэрыялах уласных экспедыцый. Ларыса Мятлеўская прадэманстравала рэканструкцыю вілейскага строю – касцюм маладзіцы. Вячаслаў Раковіч і Ірына Клімковіч падрыхтавалі даклад на тэму: "Балота, як элемент культурнага ланшафту". Газету "Культура" прадстаўляла Святлана Ішчанка.

Адбылася і прэзентацыя кнігі Алеся Гарбуля "Скарбы сівых валуноў". Кніга выдадзена ў Паставах, аўтар жыве ў Лынтупах .

Акрамя гэтага ўдзельнікі канферэнцыі ажыццявілі два экспедыцыйныя маршруты па Вілейшчыне. Аляксандр Зайцаў паказаў гасцям знакаміты валун з раннесярэдневечным надпісам Варацішын Хрэст у в. Камена; Гомсін-камень у в. Куранец; культавую крынічку каля в. Любоўшы; унікальную культавую пячору у в. Рэчкі, яна ўваходзіць у комплекс гарадзішча жалезнага веку. Адбылося і сапраўднае адкрыццё: у в. Цынцавічы акрамя ўжо вядомага культавага каменя з ямкамі А.Зайцавым быў выяўлены яшчэ адзін, меншы па памерах.

У в. Талуць старшыня Любанскага сельсавета Вера Клімовіч, старшыня сельскага Савета ветэранаў вайны і працы Дзіна Квяткевіч, дырэктар "Народнага Дома" Міраслава Сільвановіч гасцінна прымалі канферэнцыю. Мясцовы "Народны Дом" – установа накшталт дома культуры, дзе шырока прадстаўлены мясцовыя народныя і мастацкія промыслы: плеценыя, тканыя, выразаныя з дрэва вырабы.

27-га ліпеня ўвечары госці развітваліся з гаспадарамі. Хто ехаў у Мінск, хто вяртаўся ў Вільню. З аднаго боку было светла ад усведамлення таго, што на Вілейшчыне ведаюць, шчыра даследуюць і шануюць традыцыйную культуру. З другога боку было сумна, што такіх мерапрыемстваў па Беларусі праводзіцца няшмат. Усё жткі трэба аднадумцам сустракацца часцей, і суайчыннікам з суайчыннікамі, і з сябрамі з суседніх краін, трэба абменьвацца доследам, ведамі. Тады і наша, і суседняя з намі культуры стануць багацейшымі, навукоўцы і краязнаўцы лепш зразумеюць адзін аднаго.

Ірына ЗАНЕЎСКАЯ

**Васіль ЖУКОВІЧ**

•

*На мае сляды,*
*на мае шляхі*
*падаюць снягі,*
*белыя снягі.*

*Чыстыя яны,*
*быццам з крозаў, мар,*
*шчодрыя яны —*
*як Гасподні дар.*

*На мае сляды,*
*на мае гады,*
*на мае грахі*
*падаюць снягі.*

*Чыстыя снягі.*

## ЧАКАЮ

*Кажы ласкавыя мне словы,*
*даўно не чуў ласкавых слоў.*
*Ад слоў — душэўнае святло;*
*кажы ласкавыя мне словы.*

*Чакаю цуда зноў і зноў;*
*спрадвечны ён і вечна новы.*
*Кажы ласкавыя мне словы,*
*даўно не чуў ласкавых слоў.*

## ЖАЎРАНАК

Пэўна, ў сэрцы
Жаўранак начуе.

*Пімен ПАНЧАНКА*

*Не раз ты ў маім сэрцы начаваў,*
*жаўроначак, ласкавы і свабодны,*
*пасля таго, як голас падаваў*
*над ранняю пратальнай халоднай.*

*Малітву небу слаў я перад сном,*
*каб адагрэць табе душу і цела,*
*каб крыллейкі і песні твае зноў*
*над роднаю зямліцаю трымцелі.*

*І вось перад нябёсамі стаю,*
*мяне трывога зноў апанавала:*
*мароз, а песню дорыш ты сваю,*
*цыклону прабіваючы навалу.*

*Я так цябе люблю і ўжо ніяк,*
*маленькі пташа, не магу адрозніць,*
*ці гэта ты гукаеш сонца так,*
*ці гэта маё сэрца на марозе.*

**Таіса МЕЛЬЧАНКА**

## НЕЗЯМНАЯ ЛЮБОЎ

*Абдымі мяне, вятрыска-вецер,*
*Астудзі гарачае чало.*
*Я — адна, як каласок у свеце —*
*Апусцела без бацькоў сяло.*

*Не спяшае сцежка да хаціны,*
*Бо няма там самых дарагіх.*
*Ціхая вярба, як страшна,*
*Пасівела ад журбы па іх.*

*Мо таму і ў цэркаўку заходжу,*
*Каб свой боль пакласці на алтар.*
*Свечачка паплача тут аб кожным,*
*Душы памяне стары святар.*

*І бязгрэшна Вечнасць прасвятлее,*
*Ды агаркам горблюся я зноў.*
*На зямлі ўтрымаць вас не сумела,*
*А па вас заходзіцца любоў.*

*Смерць бярэ, а аддаваць не хоча.*
*І ляціць, ляціць душа ў зеніт.*
*Прыйдзе час і мне закрыюць вочы,*
*Як і вы, глядзець пачну ў блакіт.*

*Час ляціць няспынна, нібы вецер.*
*Ля грудочка вымярзае кроў.*
*Думаю, што верх бярэ над смерцю*
*Незямная да зямлі любоў.*

## РАСПАД ДУШЫ

*Нібы цынкавы труны, хаціны*
*ў чарнобыльскай зоне.*
*Запячатаў іх наглух чарнобылем*
*мечаны лёс.*
*Амярцвела гняздо вецер гойдае*
*скрушна на клёне,*
*Па-ваўчынаму вые усімі*
*пакінуты пёс.*

*Ён здзічэла глядзіць і кідаецца шала*
*пад ногі,*
*Хоць даўно для яго дзён чакання*
*счарнеў каляндар.*
*Тут быллём параслі і сялібы,*
*і колаў дарогі.*
*Ды з ахвярнасцю верыць, што*
*з'явіцца сам гаспадар.*

*Смагу мукі людской аніхто, як і я,*
*не спатоліць.*
*Захліпаецца сэрца і просіць*
*сцюдзёнай вады.*
*Ды над студняй распяўся дашчаты*
*і чорны крыж болю.*
*Не апусціць вядзерца жывы*
*і паймёртвы туды.*

*Будзе грызці зямлю паўраспад*
*элементаў стагоддзе*
*І без жалю нявечыць азёры,*
*палі і лясы.*
*Нават страшна падумаць, каго*
*нам нашчадкі народзяць,*
*Бо ўжо сёння пачаўся распад*
*чалавечай душы.*

*І магільная ціша стаіць*
*у чарнобыльскай зоне,*
*Маё сэрца сціскае нясцерпна*
*аголены сум.*
*А крывавае сонца масціцца*
*на высахлай кроне,*
*Каб часцінку жывога мы ўсё ж*
*не аддалі на глум.*

**Юрась НЕРАТОК**

## ТУГА ГАДОЎ

*Ноч праляціць савой,*
*бязладным будзе ранне.*
*Гудзенне ў галаве,*
*а значыць — пуста ў ёй.*
*Гаркаваю травой —*
*звычайнае сняданне,*
*а іней на траве —*
*сусветнаю журбой.*

*Стрыптызам таямніц*
*разбэрсаны паперы:*
*няма кахання ў іх,*
*а веры — пагатоў.*
*Пад стромкі скрып масніц*
*лёс стукаецца ў дзверы,*
*гагочa: "Што прыціх? —*
*Туга! Туга гадоў..."*

## ПЕРАПЕЎ

*Ціхаю рэчкаю — песня нясмелая,*
*хмараю дымчатай сонца закрытае.*
*Ой ты, надзея мая спарахнелая!*
*Ой жа ты, мара мая незабытая!*

*Згубленым рэхам — падзеі*
*даўнейшыя,*
*мокне ад роспачы восень дачасная...*
*А ці былі вы, гады мае лепшыя?*
*А ці ляцелі з нябёс зоркі шчасныя?*

*Песня заціхне струною парванаю,*
*гукам фальшывым, няскончанай*
*нотаю...*
*І адгукнецца душа закілзаная*
*болем і жалем, журбой і маркотаю.*

## ПАЭТАМ

*Яны гараць — таму і замярзаюць,*
*душой паны і целам жабракі.*
*Скрозь вечны змрок паэтаў*
*зоркі ззяюць.*
*І свеціць кожная ва ўсе бакі.*

*І як не саладзі, а прысмак горкі.*
*Як не спяшайся — спынішся ў хадзе.*
*Паэзія — святло пагаслай зоркі:*
*няма паэта, а святло — ідзе.*

*Каго пакрыўдзіць лёс, каго —*
*прывеціць.*
*Згарэць ад страсці ці сатлець*
*з нуды...*
*Адны пагаснуць — новыя засвецяць.*
*І не дадуць аслепнуць назаўжды.*



Сяргей ГРАХОЎСКІ, Сяргей ДАВІДОВІЧ і Марыя ЗАХАРЭВІЧ. 2001 г.


Пятрусь МАКАЛЬ, Віктар ЯРАЦ, Анатоль ГРАЧАНІКАЎ і Раіса БАРАВІКОВА. 1981 г.

**рВольга КУРТАНІЧ**

•

Л. Дранько-Майсюку

*Гэта паэты прыдумваюць здані,
штукарствам мілым аддаўшы плён.
Краіну Альба, як альпінарый,
пакорай робіць Напалеон.*

*Пачуццяў слодыч бярэцца ў вершы,
бяруцца рыфмы, як гарады.
І сочаць здзіўлена:
ён найпершы,
ваёўнік смелы, сышоў сюды.*

*Ён сыпле кветкі, штандары
ўзносіць
у агнявокасці баявой.
І не пагроза,
а толькі просьба
у ціхаплынным:
"Ідзі за мной..."*

*Каб па ўзбярэжжы яго элады,
яго нявольнай Айчыны
змог
ісці хто верыць,
і той, хто славіць,
і той, хто любіць,
як любіць Бог.*

**Святлана ЯВАР**

## АКРАВЕРШ

*Ледзяны вецер студзіць мне плечы,
Едзе хуткі цягнік. Ну няўжо,
Адзінокай, пад колы мне легчы?*

*Не, надзеі ніякай няма.
І ніколі цябе я не ўбачу.
Да таго ж, наступіла зіма...*

*Ленавата круціў ты раман,
Ён працягвацца доўга не мог бы,
Называў што адзінай — падман.
Я не веру табе і на кроплю.*

*Ласкавейшы ты быў хоць калі?
Ёлкі-палкі, а я ўсё кахаю!
Некаханай, мне месца ў зямлі?
Я адказу пакуль што не маю...*

**Павел ГАСПАДЫНІЧ**

•

*Ад нашых пачуццяў, ад нашых
памкненняў,
На жаль, засталося
ўспамінаў трызненне...
Згарэла каханне ў халодную восень
І попел расстання кладзецца
на просінь...
Ад яркае знічкі, ад зорак імклівых,
На жаль, засталіся ў сэрцы
дажджлівым
Самота сляпая ды сум невыносны...
Як нас падмануў наш лёс
незайздросны!
Ад свету усмешак, вачэй бліскавіцы
Згадаеш хіба толькі тыя крыніцы,
Што жарсцю агнёвай калісь
паз'ядналі...*

*Ці помніш ты гэта, мая дарагая?
А зараз... у часе забыты прасторай
Згубіўся і я... Ад памяці хворы...*

•

*Няспешна час бяжыць па вулках...
Срабрыцца ночы цень сляпы...
Брыду куды? па жыццях мулкіх,
І не зважаю на гады...*

*Павольна думкі адыходзяць...
Спагада вечарам імжыць...
Брыду за чым? па сэрцаходзе,
Навошта хочацца так жыць?*

*У роспач цемры шлях праводзіць...
Спатканні дзённыя — на нуль...
Душа, пачуў як узыходзіць
На варту існасці патруль!*

*Ды не... У акіяне ціхамоцця
Ля берага чужых мне сноў...
Няспешна час бяжыць ў лахмоццях,
Срабрыцца ночы ціха кроў.*

*А я... самотнік адзінокі,
Шукаю скарбаў, там дзе ўсе...
Пад спеў гаротнікаў-аблокаў
Ў чужым ды родным сне....*

**Дзіна ДУДЗІНСКАЯ**

## НЕБА — ПУХАМ

**(недасказ)**

*Нявольніца кокана цела
жыццём саспельваю крылы
дарогі назад няма
бо ўжо не вусень
ды яшчэ не матыль.*

*Нявольніца кокана цела
брыдкаму качаняці
шлях свой да лебедзя
як ратаваць
ад перапыненасці.*

*Нявольніца кокана цела
зацяклі крылы
пацягнуцца б
раскрыць бы
на ўсю даўжыню...*

*— І толькі лёгка
гайдануцца ногі
аднятыя ад зямлі.*

*...Ад зямлі аднятыя...*

## ЖЫЦЦЯ МАСТОК

*Паміж скалістым берагам
Ёсць-што-сказаць
І абетаваным краем
У-далося-вы-казаць —
Бездань нематы,
Дзе даўно кладу
Падвесны масток:
Мацую перакладзінкі
Радкоў на канаты
імкненне да мэты.*

*І толькі вецер
Духа Святога
Спявае песню
Мудрасці і надзеі.*

**Алена КОТАВА**

## КЛІЧА РУЖА ВЯТРОЎ

*Кліча ружа вятроў,
бор і род, і кроў —
памаліцца аб цудзе.
Плынь спадкаемных слоў
у перавяслах сноў
зноў, прадчуваю, будзе.*

•

*Лес, загар на руках.
Лёс — падзенне і ўзмах
крылаў.
Постаць дзяўчыны,
што ў крэўных шляхах
продкаў, родаў...
Прасцяг
Лесу з лёсам Айчыны.*

•

*Вось і маё жытло:
сцены, балкон і шкло
золатам — на усходзе.
Ластаўкі — на крыло.
Ліпень, за ім прыйшло
усё, што, зрэшты, прыходзіць:
мроіва туманоў,
снежнае палатно,
спраў абыдзёных змова...
Раптам знянацку зноў
громам ува сне — яно:
паспець прапець слова!*

•

*На мяжы небакраю
травы збавення збіраю,
ліха-бяду адхінаю
і, як заклён, прамаўляю:
"Дзякуй, мой Божа высокі,
што даў мне жывыя вытокі.
Дзякуй, мой Божа мілы,
што даў мне белыя крылы,
каб не спачыць у знямозе
на палыновай дарозе".*

**Міхась ЮЖЫК**

•

*З усіх нездавальненняў
цьмяна-шэрых
Адна незадаволенасць сабой
Смыліць і надакучвае без меры,
І развінае роздумаў сувой.*

*Яна ўва мне, а я ў яе палоне
Зрабіць і кроку гожа не магу.
Яна і ў снах суцішных не патоне,
І гонар мой асадзіць на бягу.*

*О, неразлучныя, нялюбыя і злыя,
Шыбуем з ёй па змане і нудзе.
Намуляна ў яе абдоймах шыя,
Нямашака спакою анідзе.*

*І трызніца прыстанак далягляды,
Калі сабой здаволюся зусім.
Няхай пamру, ды верад мой закляты
Развее час, як ад кастрышча дым.*

•

*Мы аднекуль прыйшлі, ачумелыя
ад непагоды.
Будавалі сялібы, узводзілі храмы,
масты.
Дамагаліся існай, ачышчанай
ветрам свабоды
І баяліся здрады, няшчырасці
і пустаты.*

*Месты нашы буйнелі, сады
наліваліся цветам,
Пакаленні дужэйшыя новыя выйшлі
на шлях.
Але шчасця не зналі і бавілі зімы
і леты
Без натхненняў, без Божае ласкі
і веры ў вачах.*

*Выгнівала нутро, хоць здароўе
зайздроснае звонку
Пераконвала прышлых у нашай
заможнасці ды
Палымянасці сэрцаў. Але
ва ўрачыстасці звонкай
Неўпрыкмет парахнелі паселішчы
і гарады.*

*І тады расступалася неба і кволых
прымала,
Разыходзіўся дол і навекі ўсіх
дужых хаваў.
Груды попелу ўпалі туды і азёры
металу...
Праз стагоддзі тут зноўку
над рэчкаю сад расцвітаў.*


Сцяпан ЛАЎШУК і Браніслаў СПРЫНЧАН.

# «ПОКА В УСТАХ НЕ СКАМЕНЕЕТ СЛОВО»

Нядаўна з Кракава атрымаў невялікую бандэрольку. У ёй аказаўся зборнік вершаў малодшага майго сябра-земляка Андрэя Савінкова. Зборнік мае назву "Upiory", што ў перакладзе на беларускую мову азначае "Вампіры". Назва даволі насцярожвае, хаця зборнік вершаў не пра тых мерцвякоў, якія ноччу выходзяць з магілы, каб смактаць кроў людзей. Слова вампіры мае, акрамя вышэй названага, яшчэ два значэнні: бязлітасны эксплуататар і крывасмок, а таксама яно азначае род буйных кажаноў. Праўда, на вокладцы кніжачкі вершаў усё ж адлюстраваны здымак старых могілак, адкуль і з'яўляюцца, паводле народных паданняў, "upiory".




Зборнік вершаў Андрэя Савінкова склалі вершы на польскай і рускай мовах. Не кожны радавы чытач гэтую кнігу дачытае да канца, бо над радкамі, строфамі, вершамі паэта трэба думаць пра лёс чалавечы, пра жыццё і смерць, пра тое, што "мой город умер трамвайными рельсами" і пра тое, дзе былі анёлы. Андрэй Савінкоў — паэт-мадэрніст і філосаф. Прытым, сучасны філосаф са сваімі асабістымі разважаннямі пра наша жыццё, каханне і смерць:

*После остается просто*
*Любовь?*
*И в этом я*
*Ничего*
*Не обозначу?*

Мадэрн — тое, што сучаснае і моднае. Можа, таму паэт імкнецца ісці ў нагу з часам, жадае быць модным, парушаючы пры гэтым традыцыйныя і класічныя формы верша. Тым не менш, ён суб'ектыўны ў паэтычных вобразах, няхай яшчэ нясмелых і палюнацку асцярожных:

*В опустевшем доме*
*Сидело нас трое*
*Ты да я и наша*
*Тень.*

Андрэй Савінкоў — малады аўтар, яму толькі 26. Адчуваецца, што паэта зацікавіла еўрапейская культура. Тут ён адчувае сябе вольна і незалежна, ён мудра філасофствуе, разважае, "как настоящий поэт", які блукае "по старому городу до смерти озябшему в багряной плащанице, трижды убитый и четырежды воскресший...". Але аўтар зборніка "Upiory" па-свойму задуменны і самотны. І гэтая самотнасць адчуваецца ў польскіх і рускіх вершах. Ды паэт не зважае на гэта, ён творыць і жыве словам:

*Живу пока*
*В устах не скаменеет*
*Слово*
*А слово было так себе*
*От Бога...*

Чытаючы зборнік вершаў Андрэя Савінкова, мне чамусьці прыгадваюцца нашы беларускія літаратары, якія жывуць, пішуць і друкуюцца ў Польшчы. Здаецца, малады слонімскі аўтар далучыўся да моцных паэтаў Яна Чыквіна, Надзеі Артымовіч, Міры Лукшы, Юркі Баена, якіх цікавіць у паэзіі міг быцця і вобраз. Ёсць нешта ў маладога Савінкова ад польскіх Казімежа Свягоцкага і Тадэвуша Ружэвіча. Яго своеасаблівыя паэтычныя радкі, як і названых паэтаў, кранаюць чалавечую экзістэнцыю вобразнасцю і роздумам:

*Smierc*
*Pachnie czystum*
*Przescieradlem*
*Wieczornym*
*Chlodem koldry*
*Tuli sie do nog*
*Zmeczonym psem...*

Нагадаю яшчэ, што паэт Андрэй Савінкоў нарадзіўся ў Сляніме. Цяпер ён студэнт факультэта паланістыкі і культуралогіі Ягелонскага універсітэта ў Кракаве.

Сяргей ЧЫГРЫН



Янка СІПАКОЎ, Валянціна ПАЛІКАНІНА і Васіль ЗУЁНАК. 2001 г.

**Соф'я ШАХ**

•

*Люты — лістапад, люты —*
*лістапад, —*
*нашы дні і месяцы — зямныя вехі,*
*між якімі, выпрабоўваючы гарт,*
*адбываюцца ўсе поспехі й паспехі.*

*Люты — лістапад, люты —*
*лістапад, —*
*нараджэнняў нашых злучаныя*
*даты,*
*між якімі Ваш пагляд і мой пагляд*
*узаемабагацеюць ад спагады.*

*Люты — лістапад, зноў люты —*
*лістапад*
*не ў адным, о, не ў адным*
*раскажуць вершы,*
*як рассоўвае наш спеўны лад*
*гэтыя акрэсленыя межы.*

•

*І што я ні скажу, што ні зраблю,*
*хіба раскрыю існыя вяршыні,*
*святліць якія Госпада малю*
*і гэты ўвесь прасцяг блакітна-сіні?*

*Высокасць узаемадабрыні,*
*ўзаемаразумення, захаплення, —*
*чым далей — тым і болей вышыні*
*між намі спеўнага адухаўлення.*

*Якія словы?! Што — ўзрушэнне*
*дум?!*
*Ні голасам не перадаць, ні шэптам,*
*калі так боска нашым*
*душам дзвюм*
*і ў гэтым свеце, й недзе*
*па-за светам...*

## САНЕТ

*Стогне вецер у восеньскім свеце, —*
*так працяжна ў прасторы вірліць,*
*нібы вырваўся ён з апраменцця*
*і ў такое ж прадонне ляціць.*

*Праз дубняк, што за рэчкай*
*стаіць,*
*праз пужлівыя купкі чароту*
*вые, струніцца, сцята віхрыць,*
*нутраную адчуўшы свабоду.*

*З пракаветнае цемры ў віднату,*
*а з відноты — у цемру ізноў, —*
*прадзімае, пранізвае слоту*
*між зямных і нябесных шляхоў.*

*Нездарма яму гэты назоў —*
*засутонены вецер вятроў.*




**Аркадзь НАФРАНОВІЧ**

## РОЗДУМ

*О, ты, жыццёвая дарога, —*
*То мерны крок, то часам бег.*
*І пакаянне перад Богам,*
*І зноў, хай і нявольны, грэх.*

*Узлёты, горкія падзенні —*
*Нібы падстрэлены ты птах.*
*Ды памагаў мне добры геній*
*Трымацца цвёрда на нагах.*

*Ідзе гадоў напластаванне,*
*Яны, як мудрых кніжак стос.*
*Усё было: і сонца ззянне,*
*І хмары крылі сінь нябёс.*

*Асенні час мой... стынуць пожні...*
*А там і подых зімніх дзён...*
*Ды спадзяюся — не апошні*
*Перада мною перагон.*

*Таму і трэба сеяць жыта,*
*Пакуль пульсуе ў жылах кроў.*
*Што пержыта — не забыта,*
*І свет мне пазнаваць наноў.*

## МІЛЫ ГОЛАС Я ПАЧУЎ АДНОЙЧЫ...

*Мілы голас я пачуў аднойчы,*
*Агляніуўся – і перада мной*
*Ты стаяла, гледзячы мне ў вочы,*
*Незямною ззяючы красой.*

*Пойны радасці і хвалявання,*
*Штосьць хацеў казаць я пра жыццё.*
*Ды забіла ў адзін міг дыханне*
*Мне сваім прыбоем пачуццё.*

*І хоць бачыў прыгажуняў многа,*
*Прад табою страціў мовы дар,*
*Бо ў табе — усё было ад Бога,*
*Вытканае з лепшых маіх мар.*

*...Вечарамі, як успыхнуць зоркі,*
*Думкамі ў тваёй я старане.*
*І вяду з табой тады гаворку,*
*Ты, здаецца, слухаеш мяне.*

*Бачна нам па шмат якіх*
*прыметах —*
*Адыходзіць час зімовых сцюж.*
*Ты і я, ды ў зорным небе ветах —*
*Там, на ім, сустрэчы нашых душ.*

**Наталля ГАЛАВАЧ**

## МАЗУРКА ШАПЭНА

*Як дзіўна музыка гучала,*
*Як зала млела без цяпла.*
*А панна нешта Вам шаптала —*
*У танцы лебедзем плыла.*

*Яна вяртлявую сцяжынкай*
*Бяжыць нястрымна праз гады —*
*Светлавалосая дзяўчынка*
*З вачыма колеру бяды.*

*Той бляск вачэй, як сотня "фортэ",*
*Як поўні вечная журба.*
*...Шапэна новыя батфорты,*
*Мазуркі вычурныя "па"...*

## ПРЭЛЮДЫЯ № 4 «ЛЯ МАГІЛЫ»

*Я перад вечнасцю нямой,*
*Як перад споведдзю святой...*
*Яна вачніцамі пустымі*
*Мяне з'ядае, муліць, стыне.*

*Мізэрнасць — я, адной пясчынкай*
*Злячу ў сусвет, а тут катрынкай*
*Пакорна трохі пагалосяць*
*І аднясуць, куды адносяць,*
*Калі адмерана струна —*
*Туды дарога ўсім адна.*

*...Я перад вечнасцю нямой,*
*Бясконцай, велічнай, пустой...*

## МАСТАКУ

*Спадзяюся на стрэчу.*
*І думкі на памяць збіраю...*
*Ты збялелай душой і дыханнем*
*мяне наталі.*
*Можа дзе-небудзь там,*
*На апошнім сваім небакраі*
*Ты прытрызніш мяне,*
*ты пазнаеш сваю Наталі.*

*І ты прымеш мяне*
*Без прыдзірак і лішняга тлуму,*
*На адценнях лістоты пачнеш*
*свае песні спяваць.*
*Толькі тут, на зямлі,*
*Не пазбыцца здранцвелага суму,*
*Толькі тут, на зямлі,*
*Нам замнога яшчэ гараваць.*

**Ларыса АЗАРАВА**

## У ХМАРНЫ ДЗЕНЬ

*У хмарны дзень*
*Знікае лета,*
*Не перайсці сустрэчны лёс,*
*Душа блукае ў паветры,*
*Шукае музыку нябёс.*

*І думка, нібыта з прадоння,*
*У далячынь нябёс ляціць,*
*Садзіцца на мае далоні*
*І зоркай дзіўнай зіхаціць.*

**Алесь ШПЫРКОЎ**

•

*Я, як цікаўнае дзіця,*
*Хачу даведацца, мой Ойча,*
*Адкуль цячэ рака жыцця*
*І дзе апошні мой званочак,*
*Куды адпраўіцца душа*
*Пасля бярозавых пагостаў,*
*Чаму здаецца нам спярша*
*Тваё тварэнне гэткім простым?*
*А ці былі чарнавікі?*
*Так зазірнуць у іх хацеў бы:*
*З якога мора ці ракі*
*Стварыць Ты змог такое неба?*
*І наша грэшная Зямля,*
*Пясчынкі ўсе і ўсе істоты,*
*І самы доўгі Млечны Шлях —*
*Твая апошняя работа?*
*Я прад Табой, як немаўля,*
*І дзіцем буду аж да скону:*
*Перш, чым стварыць, Ты маляваў*
*Жанчыну тую...*
*А якою?*

## ЧУЖЫЯ БЕРАГІ

*Зноў прыйшоў я да гэтай ракі*
*І ніяк не магу перабрацца.*
*Дзе ж вы, дзе вы, мае дружбакі?*
*Я вас доўга не мог дачакацца,*
*І сустрэць вы мяне не прыйшлі.*
*Хлапчукі тут не тыя гуляюць...*
*У бары між высокіх лясін*
*Аднагодкі мае спачываюць.*
*Усё гэтак бруіцца рака.*
*Шчупакі і язі тут, і плоткі.*
*Ды звініць мне аб тым асака,*
*Што струхнелі і кладкі, і лодкі.*
*О, як многае тут мы маглі!*
*Толькі хутка гады адкружылі.*
*Маю рэчку нясуць берагі.*
*Ды яны ўжо, напэўна, чужыя.*

## АСЕННІ ЭЦЮД

*Азызла ўсё:*
*І неба, і зямля.*
*Адны лісточкі*
*Бегаюць, як дзеці.*
*Гляджу на іх —*
*І думка спакваля:*
*Што ні кажы,*
*А ёсць душа на свеце.*

**Міхась СТРЫГАЛЁЎ**

## НА МЛЫНЕ БАГОЎ

*Як гаснуць прыцемкі, як цені*
*кладуцца сумна — стрымгалоў*
*на дол з вяршыняў летуценяць,*
*на цені іншыя — далоў*
*ці на ставок, — на млын багоў...*

*І кола ў твані нерухома — сухая*
*раска ў лапасцях.*
*І млынара дачкі ля дому няма:*
*на хутары ў гасцях,*
*млынар даўно ўжо на кладах...*

*На ганку — здань: сівы садоўнік*
*сядзіць, гундосіць аваднём.*
*Яго з зялёным дахам домік*
*на стаў схіліўся жураўлём.*
*Так зарасла травой дарога*
*да брамкі млынара даўно.*
*А крок ступі — пачуеш Бога,*
*убачыш жоўтае акно...*

*І тут усё замітусіцца. Млынар —*
*нібыта Саваоф,*
*Глядзіць за жорнамі эпох, аж*
*покуль млын не схопіць гліца...*
*А калісь (то ж было ля млына) —*
*і сум, і радасць воч-чмялёў...*
*Маё тут сэрца зашчыміла*
*шчаслівай зоркаю палёў...*

## КУФЭРАК АДАМА МІЦКЕВІЧА

*Усё сыходзіць — растае —*
*у курганы, у гарадзішчы,*
*калі ў праёмы вецер свішча*
*ды вецер вечнае пяе...*
*Буслы, кружыце над пагоркам!*
*Люляйце, хвалі, чоўн-вясло, —*
*Метамарфозаў Кола... горкім*
*быллём ля рэчкі парасло...*
*Прыступкі да яго да млыну,*
*Фата-Марганы — друз адзіны...*
*Шчэ пахнуць верас і чабор,*
*пяшчотаю дзявочай — вершы...*
*Паэта голасам мяцежным дыхне*
*куфэрак — нібы бор,*
*таемны Свіцязі дакор...*

*Паводка майская Тувы —*
*і батальён салдат мяцежны*
*на ўзгорках Грузіі няўцешнай, —*
*яго куфэрак у лісці*
*хіснецца, нібы ў трынь-траве...*
*Пра тое ведаюць паэты, дубоў*
*і букаў вечны шум,*
*ды Пушкін — сцежкай на Арзрум,*
*ды Ён, ды Крымскія санеты...*

## ЗАЎТРА — ЛЕТА. ЗМЫЕ ДОЖДЖЫК ПАЛ

*Заўтра — лета, дагараюць свечкі*
*на каштанах вуліц гарадскіх.*
*Нібы ў Полі Палавецкім Скіф —*
*помніку адвечнаму на стрэчу,*
*да цябе спяшаю. Горкі міф....*

*Водар Палыну павее ў горы —*
*да Нямігі далятае шквал...*
*Ў Гіблым Месцы чуюцца дакоры —*
*смерці ўскрыкі, лютасці напал. —*
*Бітвы шум і тлум пад небным*
*хорам: электрычак праз падземны*
*хорам —*
*нібы мора шум ля вечных скал...*

*Заўтра — Лета. Змые дождж<br>ык*
*пал.*

**Таццяна МУШЫНСКАЯ**

## «Я СПРАБУЮ СЯБЕ ЗРАЗУМЕЦЬ...»

•

*Які дзіўны і смешны стан...*
*Бо душа — асобна ад цела.*
*Паляцела душа да цябе,*
*Выць бліжэй да цябе захацела.*

*Да мяне ты вярніся, душа!*
*Мне з табою ніяк не расстацца.*
*Ды не хоча вяртацца душа,*
*Усё не хоча чамусьці вяртацца...*

•

*Я спрабую сябе зразумець,*
*Зазіраючы ў цёмныя вочы,*
*Я спрабую сябе зразумець,*
*Як сачу за цячэннем вады.*

*Будзе полымя свечкі трымцець*
*У абдымках пяшчотнае ночы.*
*Захіне твой пагляд назаўжды*
*Ад жуды, ад нуды, ад бяды.*

*Я спрабую сябе зразумець,*
*Як гляджу у бясконцасць нябёсаў.*
*Застанемся з табой назаўжды*
*У квяцістасці хмельных лугоў.*

*Застанемся з табой назаўжды*
*Між духмяных, мядовых пракосаў,*
*Дзе краса і прастора без межаў*
*І пачуцці, што без берагоў.*

•

*З тваіх мне вуснаў —*
*Асалоду піць.*
*Будзе многа яе, быццам мёду,*
*няма межаў у асалоды —*
*У бясконцай нам вечнасці плыць.*

*Ахінаюць мяне ад бяды*
*Пацалункі твае ад дасвецці.*
*Сонца шар затрымаўся на веццi.*
*А імгненні — нібыта гады...*

**Надзея САЛОДКАЯ**

•

*Можна колькі заўгодна скуголіць*
*і енчыць,*
*І пустошыць душу, і на лёс*
*наракаць,*
*І падушку бязвінную біць*
*і камечыць,*
*Як галодную торбу таго жабрака.*

*Так і робім. Хто часта, хто ціха*
*і зрэдку —*
*Што каму пераважыць*
*на сённяшні дзень.*
*То канаю ад енкаў бурклівай*
*суседкі,*



*То здарожыцца восень у доўгай*
*хадзе.*

*Ці найпраста згублюся ў знаёмых*
*кварталах,*
*Ці знянацку пашчасціць: дарога —*
*бальшак!*
*Толькі цягнецца лена каняга*
*прысталы,*
*І ў суме перамётнай даўно*
*ні граша.*

## ПАДАРУНКАМ ПРЫМАЮ СЛОВА

*Загадала сабе паверыць*
*У расквечаны май зімой.*
*Госці ў дом! — адчыняю дзверы:*
*Вырак мой і ратунак мой.*

*Знічка ў небе, былінка ў полі,*
*Што на лёс наракаць дарма...*
*Не шукала — расціла долю.*
*Пустазеллем была сама.*

*Падарункам прымаю слова,*
*Маю што ад яго сказаць.*
*Не ганіце мяне, панове,*
*На паўслова прыйду назад.*

*Адгарну з пажаўцелай кнігі*
*Нечытаных старонак стос.*
*На мяжы зімы і адлігі*
*Мне руку падае Хрыстос.*

## ПРОСТА ДОЖДЖ

*Дождж струменіць журлівым*
*фантанам,*
*Хмары цяжка ўкрылі блакіт.*
*Падарунак нябёсаў чытаю:*
*Кроплі — літары, стрункі —*
*радкі.*
*Піша дождж геніяльныя стансы*
*У будзённай сваёй прастаце.*
*Час прастору шукае: "Застанься,*
*Я не ўсё расказаў, што хацеў!"*

*Кіпень неба змывае прастору*
*Ва ўчарашнія дні і вякі.*
*Час грывастую тройку*
*прышпорыў —*
*Рвуцца струны узмахам рукі.*

*Толькі гляну з-пад броваў*
*суровых:*
*Ветру сціх наравісты парыў.*
*Шэпча дождж развітальныя*
*словы,*
*Плача лета на схіле пары.*

**Лявон ЦІМОХІН**

## ВАНДОЛЫ

*Наўсцяж дарогі стынуць*
*пералескі,*
*Усцяж дарогі снег мяце пазёмка.*
*Мае трывогі, можа быць, шчэ*
*з хрэсьбін,*
*Як у царкве хрысцілі, што*
*за вёскай.*
*Далі імя, ды не згадалі — шчасця,*
*Ды не пазбавілі сірочай долі.*
*Мяне ў санях конь невядомай*
*масці*
*Вёз па жыцці ад долі — да нядолі.*
*Мяне люляў мой бацька-месяц*
*Люты,*
*Мне сыпаў снег замест чаромх-*
*пялёстак,*
*Замест чароўнай краскі*
*мяты-руты*
*Мне шэрань дрэў падараваў*
*мой хросны.*
*І мо таму так хочацца — у лета,*
*Дзе сонца і цяпло, дзе водар мёду.*
*Ды вось шкада мне пералескаў*
*гэтых,*
*Хто ж іх сагрэе ў сцюжу-непагоду?*

## САРАКІ

*Туманны вечар*
*Імгла ў вакне,*
*Як недарэчы*
*Сумна мне.*
*На сцюжы лужыны*
*Дрыжаць.*
*Зусім праступджана*
*Крычаць*
*Гракі пралётныя*
*Каля ракі:*
*Паспелі ўсё-такі*
*На саракі!*
*У шэрым мроіве*
*Агні дрыжаць,*
*Занепакоена*
*Гракі крычаць...*
*Хоць сёння вербніца,*
*Імгла і дождж,*
*У цяпло не верыцца*
*Ды ўсё ж, ды ўсё ж...*

•

*Чысты позні вечар,*
*Надыходзіць восень,*
*Шэрая гадзіна,*
*Светлы зорны шлях.*
*Уздоўж дарогі сосны,*
*Мараць аб сустрэчы,*
*А па-над дарогай*
*Зорны, вечны дах.*
*А над нашым Краем*
*Цішыня і неба,*
*Часу лёт нячутны —*
*Таямніца сну.*
*Вольных думак повязь —*
*У бяссмерце грэбля,*
*Праз бяды атрутнасць,*
*Здраду і ману.*
*Чысты позні вечар,*
*Зорны Шлях над намі,*
*Веліч Таямніцы,*
*Крокі нашых ног...*
*Ростані-дарогі,*
*Мары аб сустрэчы!*
*Просім: Хай спрыяе*
*У дарозе Бог!*

## У ЛІТАРАТУРНЫМ МУЗЕІ

Як прыемна было падчас шумлівага "Славянскага базару ў Віцебску" выпадкова апынуцца ў цішы камернага невялікага музея! Наведаць ні мітуслівы Летні амфітэатр, а Літаратурны музей, што размясціўся якраз побач з галоўнай пляцоўкай Міжнароднага фестывалю мастацтваў.

А сёлета гэты адметны філіял абласнога Краязнаўчага музея адзначыў пяцігоддзе з дня адкрыцця пастаяннай экспазіцыі, высокі ўзровень якой вызначаюць музе-



язнаўцы Расіі і Беларусі. Трэба сказаць, што ў Літаратурным музеі сабраныя унікальныя экспанаты беларускай пісьменнасці ад старажытнасці да нашых часоў (як паведаміла аглядальніку "ЛіМа" дырэктар музея Святлана Казлова, Віцебшчына ўвогуле – чэмпіён па знаходжанні ўсялякіх старажытных скарбаў). Галоўная частка пастаяннай экспазіцыі носіць назву "Легенды і паданні Віцебскай зямлі"(паводле паданняў раку Дзвіну раней называлі Дзевінай ракой, бо продкі віцяблян пакланяліся паганскай Дзеве Сонца), далей размяшчаюцца экспанаты "Энцыклапедыі нячысцікаў", "Беларускай батлейкі", "Вандровак у мінулае", паўстаюць "Знакамітыя постаці Віцебшчыны". Дарэчы, з рэдкіх літаратурных экспанатаў у музеі захоўваюцца не толькі рэдкія кнігі (напрыклад, "Тарас на Парнасе", выдадзены ў Віцебску ў 1904 годзе), але і арыгіналы ваенных лістоў В. Быкава, напісаных родным у 1943 годзе (нядаўна ў музеі адбыўся жалобны вечар у памяць славутага беларускага пісьменніка), апошнія фотаздымкі У. Караткевіча з яго-ным аўтографам (Літаратурны музей сябруе з сястрой пісьменніка). А ў фондах музея захоўваецца адзін з самых трагічных экспанатаў – пасмертная маска У. Караткевіча, якая, па зразумелых прычынах, ніколі не выстаўляецца.

Па словах С. Казловай, Літаратурны музей штогод наведваюць шэсць тысяч чалавек – і гэта неблагая лічба для невялікага музея! На працягу года тут праходзяць усемагчымыя прэзентацыі новых кніг (сёлета сваю новую кнігу падараваў музею Р. Барадулін), творчыя сустрэчы з пісьменнікамі (нядаўна ў Віцебск прыязджала паэтка В. Іпатава), літаратурныя вечары ў коле сяброў (сумесна з Віцебскім аддзяленнем Беларускага саюза пісьменнікаў), ладзяцца таксама і выставы (сёння ў памяшканні музея праходзіць выстава А. Захарэвіча (жывапіс) і С. Сотнікава (скульптура), якая носіць агульную назву "Дэ жа вю").

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

**НА ЗДЫМКУ:** дырэктар Літаратурнага музея С. Казлова.

**ФОТА Г. ЖЫНКОВА**

## «ГАЛАСЫ» № 2

Рэдактар газеты "Гродзенская праўда" Іосіф Багіна застаўся верным свайму слову: нядаўна ўбачыў свет другі нумар зборніка "Галасы", у які ўвайшлі лепшыя творы літаратараў Гродзеншчыны, што друкаваліся ў абласной газеце ў 2002 годзе.

Тут змешчаны вершы і апавяданні як пачынаючых творцаў, так і вядомых Ю. Голуба, М. Губернатарава, С. Валодзькі, Р. Бялячыца, Н. Рыбік, В. Кудлачова, Л. Цыхун, У. Васько, Т. Сучковай, С. Чыгрына і іншых. Укладальнікам кнігі па-ранейшаму выступае Ю. Голуб.

# БЕЛЫ-БЕЛЫ КРАНЕЦЦА ВЕРШ...

***Вершы берасцейца Лявона Валасюка белыя не па форме (напісаныя пераважна кароткім верлібрам), а па настраёвасці. Яны тужліва-светлыя і датклівыя, як празрыстыя павуцінкі на ветры. Іх успрымаеш найперш зрокава, пільна ўзіраючыся ў мяккія пастэльныя фарбы, што ненавязліва напаўняюць і кранаюць душу. І тады адкрываеш у іх не проста "замалёўкі з натуры", а асколкі перажытага аўтарам, іскрынкі памяці, знічкі імгненняў быцця: "Сёння – ты мой госць, над дахам вяртлівы шэры верабей". "У двор прыляцеў чорны воран. І ў хаце маёй цёмна стала". Не мною сцверджана, што аднаго якога-небудзь мастацтва ў абсалютна чыстым выглядзе не бывае. Але адчута і мною разгубленасць, скажам, ад таго, "як жа перадаць мне словамі колер твайго смутку?" Шукаеш – як, на тое ты паэт, ды зусім не лішне ў такім выпадку мець хоць якую дасведчанасць у колеравых гамах, тонах і паўтонах, ценях і паўценях.***

***Веды і навыкі прафесійнага мастака – аўтар з'яўляецца сябрам рэспубліканскага творчага саюза – яўна спрыяюць Валасюку-паэту. Напрыклад, пазбягаць шматслоўнасцяў-вытлумачэнняў, як мы кажам, літаратуршчыны: "...пойдзе снег. Белы-белы кранецца верш". Цаніць дэталь, нярэдка ўзбуйняючы яе да цэласнага, самастойнага вобраза: "замест бажніцы – на паліцы цвыркун". Прызнаваць і паважаць першаснасць сваіх і чытацкіх адчуванняў перад разумовымі ўскладненнямі і іх разгадкамі. Можна папракнуць аўтара за некаторую аднастайнасць (але не застыласць) формы і матываў ягоных вершаў. Што ж, яны патрабуюць нетаропкага, не "канвеернага" чытання. Схільныя да гэтага, упэўнены, знойдуцца і сярод чытачоў "ЛіМа".***

Алесь КАСКО

Лявон ВАЛАСЮК

### МУЗЕ

*Прыснілася*
*Ты мройным ранкам.*
*На лаўцы*
*У летнім халадку*
*Сядзела*
*Каля цётчынага*
*Ганка.*
*Чытала вершы...*

•

*Салодкі подых*
*навальніцы.*
*Чуцён у небе першы гром.*
*І вецер тут як тут —*
*нагбом*
*Папіць крынічнае*
*вадзіцы...*

•

*Сёння — ты*
*Мой госць,*
*Над дахам*
*Шэры*
*Верабей...*

•

*У двор*
*Прыляціць чорны воран.*
*І ў хаце маёй*
*Цёмна стане...*

•

*Красавіцкі вечар,*
*Снег на рукаве.*
*Па лязу дарогі*
*Месячык плыве...*

•

*Чорны крыж*
*У белым полі.*
*Гурбы снегу намяло.*
*Бура*
*З вечара сваволіць.*
*Быццам могілкі — сяло...*

•

*Апошняе лісце*
*Апала да ног.*
*Апошнія зарапады.*
*Аблокаў свінцовых*
*Грама́ды...*
*Але і над імі Бог...*



Максім ЛУЖАНІН сярод чытачоў. 1985 г.

Зміцер ВІШНЁЎ

•

*ты пусціла*
*не вецер што раскідвае*
*залатыя фіранкі на вокнах*
*ты пусціла ў свой карабель*
*гарпуншчыка ў пагонах*
*звера-тэрарыста*
*што разбурае вагоны*
*у гэтых зімовых шыротах*
*сярод крывавых шпіляў*
*і потных крывавых шпротаў*
*я думаю толькі пра сонечную буру*
*і тваю смешную алергію на котак*

•

*пісьменніцкія разборкі*
*з'едлівыя мікрафоны*
*котка выцягнулася*
*фанэндаскопам*
*мікробы свецяцца фосфарам*
*— гэта дзень разваліўся на словы*

### ПРЫЗНАННІ ПАЛЯЎНІЧАГА

*Я люблю страляць дзяўчат*
*і качак*
*збіраючы іх тэлефоны ў пачак*
*І трупікі іншых звяроў*
*напрыклад ваўчат*
*збіраю ў кватэры*
*нібыта інтэрнэтаўскія чаты*
*Скрозь вату пены*
*ты калісьці смакавала каву*
*і рэтраспекцыю*
*цяпер тваё маленькае засохлае*
*цела —*
*кантэкст інтэр'ера*

•

*вершы*
*пішуцца*
*шэптам*
*цішыні*

•

*пойдзеш у правы бок — сабака*
*пойдзеш у левы бок — сабака*
*пойдзеш прама — сабака*
*азірнешся — ты*
*адна ў сабакавых вершах*
*сабака сябра чалавека лепшы*
*няма ні апошніх ні першых*
*сярод жывёлаў самы найменшы*
*іду наперад адзін*
*ні Пушкін ні Аладзін...*

Мікалай ВІНЯЦКІ

### БЯДУ ПЕРАЖЫВЁМ...

*Журба перад вачыма полагам,*
*Са смуткам шарым елкі*
*прашумелі:*
*Усё ўжо з'едзена з таго, што мелі,*
*Адно што шрот застаўся*
*з порахам...*

*З агністага мігцення сполахаў*
*Надзеі на лабаз далёкі тлелі...*
*Яго, відаць, мы пагубіць сумелі.*
*Там — расамаха нашым ворагам...*

*Мядзведзя правучылі як-ніяк*
*Пасля таго, як спёр з ядой рукзак,*
*Настрашыўшы яго ў паветра*
*стрэлам...*

*Сваю бяду перажывём сяк-так:*
*Ёсць снасць на шчупака,*
*а рабчык-птах,*
*Ружжом дабыты, здасца*
*раем цэлым...*

# У СВЯТЛЕ ПАЛЯЎНІЧАЙ ПОЎНІ


Пятро ЛАМАН і Сяргей ПАНІЗНІК. 1982 г.

***У кожнага літаратурнага пакалення, як ні круці, ёсць свае куміры і свае героі. Уніклівыя пошукі адказу на "літаратурна-экзістэнцыйнае" пытанне "Кто более для матери-истории ценен?" у розныя часы прыводзілі да розных, па вялікім рахунку, наіўных апазіцый: Багдановіч або Купала, Танк або Куляшоў, Быкаў або Караткевіч і інш.***

***Шмат хто з наймаладзейшых сённяшніх літаратараў, ведаю пэўна, па-свойму ставіць гэтае пытанне: Сыс, даруйце, або Верацiла? Ва ўсіх сэнсах, пачынаючы ад чалавечага і заканчваючы эстэтычным.***

***Памятаю, як ўразіўся я у свой час ейным першацветаўскім празаічным дэбютам. Нават цяжка было паверыць, што гэтак і "пра гэта" пісала пятнаццацігадовая (тады яшчэ) школьніца: "Ейныя вусны спалі. Я злёгку крануў іх пальцам: яны былі сухія, шчыльна стуленыя і ўадначас расслабленыя, бы скаваныя ліпкім туманам сну. Яна ціхенька чмыхнула і падцягнула прасціну вышэй, на падбародак. Вакно было расчыненае, але ўвесь пакой поўніўся задухаю летняй ночы, і мы ляжалі пад прасцінамі. Вакно дыхала цішынёю і правалам у гарадскі сон, не было відаць ні агеньчыка. У пакоі таксама стаяла апраметная цемра, але я без цяжкасці мог разглядзець усе прадметы, як быццам святло зыходзіла аднекуль знутры, з глыбіні самой ночы, гэтак жа, як знекуль павявала прахаподай, хаця і ў пакоі, і за вакном было горача. Быццам у насмешку, падумаў я, быццам у насмешку любая самая спякотная ноч прыносіць з сабою прахалоду і святло ў глыбіні, і адчуваеш нешта, да болю падобнае да палёгкі, але ж у тым і рэч, што да болю; гэтак жа, як голас цела побач, быццам у насмешку ледзь прыкрытае лёгкай прасцінай, і варта дакрануцца да ейных валасоў, раскіданых па падушцы, як ноч бярэ сваё і дорыць палёгку, ад якой чамусьці балюча".***

***Сёння Наталлі хутка дваццаць. Вучыцца на гістфаку Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка. Мяркуе, што паэзія — гэта перш за ўсё магія з усімі вынікальнымі адсюль наступствамі. Натхняецца творчасцю як класікаў (Борхеса, Картасара, Джойса і інш.), так і амаль аднагодкаў (Міхася Баярына, Антона Тараса, Максіма Шчура). "У святле паляўнічай поўні шукае безназоўныя вуліцы, гукае памерлых ворагаў, каб адзначыць народзіны Смуты..."***

**Мікола ВІЧ**

**Наталля УЛАСАВА**

•

*Ты прыходзіш, як ноч,*
*увечары,*
*ты прыходзіш нячутна,*
*як дзень,*
*гасіш сабою*
*свечкі,*
*ты — гэта нечы*
*цень,*
*нечы нястрыманы*
*рух,*
*цішыня — ды сцюдзёны*
*гук —*
*чуеш? — ды сцюдзёны*
*гук —*
*чуеш? — бы вецер*
*з поўначы*
*шэпча, што нешта*
*здарыцца...*
*Ты прачнешся, як цемра,*
*апоўначы*
*і прытоіш дыханне,*
*як раніца.*

•

*Шэпты лясное вады ў халодным*
*аеры*
*Здані начныя па курганах*
*спаўзаюцца*
*хомарам,*
*Вільгаць травы робіць нашыя*
*подыхі*
*голасам*
*Рухі галінаў бачацца менш*
*павольнымі*
*Ў лесе курганаў хутка надыдзе*
*раніца*
*Першыя промні зробяць нашыя*
*вочы*
*вольнымі*
*Трызненне ночы зробіць нашыя*
*целы*
*памяццю.*

•

*Саткаўшы цябе жывую*
*З ніцяў саванаў продкаў*
*У святле паляўнічай поўні*
*Замовамі стрэлаў прамоўлю*
*Імя кожнай зоркі ў небе*
*У аголеным целе ночы*
*Адчую твой першы страх.*

•

*Ля вытокаў*
*мутанта-горада*
*рэкі знаходзяць*
*могілкі*
*павуціннe сплятаюць*
*рэйкі*
*і губляюцца нашыя*
*подыхі.*
*Мы стаім*
*на пляцы без помніка*
*мы шукаем*
*безназоўныя вуліцы*
*мы гукаем*
*памерлых ворагаў*
*каб адзначыць народзіны*
*Смуты.*

## НА ЗОЛКУ

*На золку калі прамяні*
*ад сырое зямлі вільготныя*
*здаецца адвечная бездань*
*мае ўласны водар*
*здаецца з лясное багны*
*дыханнем тапельцаў цягне*
*агеньчыкі зданяў танчаць*
*перад тым як растаць*
*у хомары*
*сплеценым з хворых подыхаў*
*тых хто ляжыць у зямлі*
*стогне ад ранішняй вільгаці*
*якая адорвае памяццю*
*дзеля каго ўначы*
*замест сноў у небе лунаў*
*варожых вогнішчаў сцяг*
*глядзі і маўчы:*
*з адваротнага боку — хомар*
*з адваротнага боку — цень*
*старадаўніх лясоў уначы;*
*народзіны першай цноты*
*апошняга промня ўдзень.*

•

*Холад малюе на шкле*
*рухі твайго палёту.*

*Спевы лясных каралеў*
*і выбух разбітага лёду*

*перапыняць голас дарогі*
*на які ты, усляпую, ідзеш.*
*Цішыня замаруджвае крокі,*
*цішыня патанае ў вадзе,*

*ад цябе разыходзяцца сцежкі,*
*зараз ты — пачатак шляхоў,*
*калі скажаш — не будзе межаў,*
*калі знікнеш — не будзе сноў.*

*Як самы празрысты гук —*
*не багіня, не бог, не мара —*
*ты не маеш трынаццаці рук,*
*ты не маеш ніводнага твару,*

*не цень, не замова, не мроя.*
*Ты пакрыеш целам сусвет.*
*Твае простыя белыя строі*
*ападаюць, як падае снег.*

**Сяргей ВЕРАЦІЛА**

## ПАЭМА ПЕРАМЕНЫ НАДВОР'Я

*Вясёлае, злое надвор'е.*
*Знянацку падкралася восень,*
*І я*
*Як заўсёды гатовы*
*Яе прывітаць.*
*А ты?*
*Калі маеш хвіліну*
*вольную ад*
*Клопатаў і турботаў,*
*То пойдзем, то пойдзем са мною.*
*І я пакажу табе, як*
*З лісцем змагаецца вецер.*
*І я пакажу табе, як*
*З ветрам змагаецца лісце.*


Міхась СТРАЛЬЦОЎ на ганку роднай хаты.

*Не выжыць яму,*
*Не выжыць!*

*Слёзы з вачэй*
*— вецер,*
*Ягоная гэта работа.*
*А ты не думай,*
*Што я ўжо здаўся,*
*Я сам так яшчэ не падумаў.*
*А лісце? —*
*— Лісце згарыць,*
*Лісце — смецце,*
*Лісце — ненапісаныя вершы,*
*Непацiснутыя далоні,*
*Засохлыя сэрцы,*
*Лісце — лісты да запатрабавання*
*На ўсіх паштамтах краіны:*
*Ніхто па іх не прыйшоў,*
*Ніхто пра іх не спытаўся,*
*Не напісаны на іх адрасы,*
*На іх не наклеены маркі,*
*Яны — з ніадкуль,*
*Яны — у нікуды.*
*Лісце — абясцэненыя грошы*
*Пасля чарговай рэформы*
*Пасля чарговай дэнамінацыі*
*Смецце.*

*Лісце сёння патрэбнае ветру*
*А заўтра згарыць*
*Лісце — смецце.*
*Надвор'е вясёлае, злое*
*Мая сорак першая восень.*
*Сорак выпаліў я цыгарэтаў,*
*Сорак раз я паклікаў агенчык,*
*І надзіва не змог сагрэцца.*
*Сёння мне...*
*Сёння мне, як звычайна заўсёды,*
*Як звычайна не добра, не кепска*
*Сёння я падлічваю страты*
*І мяркую магчымасць знаходак*
*І знаходжу!*
*Знаходжу лісце:*
*Ненапісаныя вершы,*
*Учарашнія праўды,*
*Непрамоўленыя малітвы,*
*Забытыя крыўды,*
*Засохлыя сэрцы.*

*Сэрца, я буду слухаць цябе,*
*Я абяцаю,*
*Я клянуся, што Вось прыкладу*
*далонь да сэрца —*
*— Яно якраз змяшчаецца*
*на далоні —*
*І стану слухаць ягоны стукат,*
*І стану сачыць за ягоным*
*рытмам —*
*Няправільнай, пераменлівай*
*песняй*

*Гэта — верасень,*
*Восень, дым і вецер,*
*Дажджамі аблокі брыняюць,*
*Патухнуць пажары,*
*Смуга адляціць,*
*І вачам*
*Даляглядзы паўстануць,*
*Будуць радыя вочы глядзець.*

*Месяц зломіцца сёння*
*Я прадчуваю*
*Вясёлае, злое надвор'е*
*Я ведаю,*
*Я слухаю сэрца.*

*Вядзі мяне сэрца!*
*Вядзі мяне прэчкі!*
*Ад злога, ад шэрага*
*Ад зайздрасці і ад пыхі*
*Унікай мяне, сэрца,*
*Ад хітых, крывых і няпростых.*
*Ты вядзі мяне, сэрца,*
*Да міласці і спагады*
*З краю няпраўды,*
*З краю нуды і адчаю,*
*Сэрца, мой сляпы праважаты!*
*А ты чуеш мяне?*
*Дык вось, калі маеш хвіліну,*
*То пойдзем,*
*То пойдзем са мною*
*І я пакажу табе смерць хларафілу*
*Смерць абрынаецца золатам*
*й меддзю,*
*Меддзю і золатам,*
*Нібыта забытай латынню,*
*З намі гаворыць восень.*

*Верасень месяц неадпраўленых*
*лістоў,*
*Засохлых сэрцаў,*
*Выдуманых пакутаў,*
*Непацiснутых далоняў,*
*Непрачытаных вершаў,*
*А сёння зламаўся месяц,*
*Вясёлае злое надвор'е.*
*Пад мае ногі зляятаюць*
*Ненапісаныя вершы...*

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ПА-НЯМЕЦКУ

**У Германіі пад рэдакцыяй Д. Бейрава і Р. Лінднера з'явілася новая кніга пра Беларусь — "Дапаможнік па гісторыі Беларусі" / Handbuch der Geschicte Weissrusslands. Рыхтуючы яго, аўтары ставілі за мэту звярнуць увагу нямецкага чытача на найбольш значныя, на іх думку, перыяды і праблемы, звязаныя з гістарычным развіццём нашага краю: "...даць шырокі агляд па пытаннях сацыяльнай і культурнай гісторыі Беларусі ад Сярэднявечча да пачатку XXI ст.". Даследаванне адкрываецца прадмовай, за якой, як і трэба было чакаць, змешчаны раздзел "Гістарыяграфія і геральдыка", дзе аўтары знаёмяць чытачоў з беларускімі крыніцамі і геральдыкай, што з'яўляецца яркім сведчаннем таго, што Беларусь ужо ў раннім сярэднявеччы мела як свае ўласныя ўдзельныя княствы, так і сваё магнацтва і шляхту, князёў і баяр. Наступны раздзел самы вялікі і найбольш грунтоўны — "Храналогія з X да пачатку XX ст.". Тут крок за крокам, пачынаючы ад распаду Кіеўскай Русі праз ВКЛ, Рэч Паспалітую, Паўночна-Заходні край, БССР, Крэсы Усходнія, паслясваенную БССР і сучасную Рэспубліку Беларусь прасочваецца гістарычны лёс нашага народа.**

**У трэцім раздзеле "Аспекты сацыяльнай і культурнай гісторыі", вылучаны і асветлены такія з іх, як сацыяльная гісторыя грамадства, эканоміка, гарады, этнічныя і канфесійныя праблемы. Другая сусветная вайна, мова і літаратура. Тут разгледжаны розныя сацыяльныя слаі беларускага сярэдневяковага грамадства: баяры, князі, магнаты, прыгонныя, гараджане. Пэўнае асвятленне знайшлі таксама этнічныя і канфесійныя праблемы. Ім прысвечаны падраздзелы пра этнічныя змены ў беларускім грамадстве ад сярэднявечча да новага часу. Два падраздзелы прысвечаны беларускаму габрэйству і толькі, на жаль, адзін — канфесійным справам нашага краю. Здзіўляе, чаму прапушчаны не менш знішчальныя для Беларусі падзеі Першай сусветнай вайны.**

**Непрапарцыянальнай здалася і апошняя частка кнігі — "Мова і літаратура". Калі мове прысвечаны два значныя падраздзелы: "Мова ў Беларусі да канца XIX ст." і "Барацьба за родную мову ў XX ст.", то беларускай літаратуры зусім не пашанцавала. У той час, калі А. Макмілін ужо напісаў тры адпаведныя кнігі, беларускаму аўтару І. Афанасьеву адвялі ўсяго 17 старонак, ды і то не пра сам літаратурны працэс, а толькі пра тое, наколькі беларуская літаратура адлюстравала ў XX ст. жыццё Бацькаўшчыны.**

**Нягледзячы на тэматычную разнастайнасць, у апошнім раздзеле нямала белых плямаў. Да іх, у першую чаргу, трэба аднесці недастатковае асвятленне канфесійнага жыцця ў Беларусі, беларускага кнігадрукавання, адсутнасць характарыстыкі такой грандыёзнай постаці усходнеславянскага Асветніцтва, як Ф. Скарына, беларускага тэатра, мастацтва, урэшце — фальклору.**

**Што тычыцца навуковага апарату, то ён зроблены даволі грунтоўна, уключае шырокі спектр дадаткаў, якія ўдала дапаўняюць матэрыялы раздзелаў і даюць магчымасць хутка арыентавацца ў даволі аб'ёмным выданні. А шматлікасць і разнастайнасць выкарыстаных крыніц, якія ўказаны ў храналагічным парадку ў канцы кнігі, ярка сведчаць пра грунтоўнасць і значнасць задумы. У той жа час спіс прац, мае, тым не менш, недаравальныя прагалы: прапушчаны вельмі вядомыя крыніцы па розных галінах гісторыі Беларусі. Добрасумленна апрацаваны такія даведачныя матэрыялы, як карты, храналагічныя табліцы, указальнік мясцовасцяў і імёнаў.**

**Уладзімір САКАЛОЎСКІ**

**Павел МІСЬКО**

## ЗЯМНЫ ВАНДРОЎНІК

*І конь дамоў бяжыць спарней,*
*Калі вядомая дарога.*
*Нібы падпрэглі маладога!*
*І мне штосьць рупіць, цяжка мне,*
*Але ўшчуваю сябе строга:*
*З чым так спяшаеш? Што вязеш?*
*Даробак — мізэр. І спяшацца?!*
*Пішчом не лезь, стой у чарзе,*
*Бо сэрца ў смутку, у тузе,*
*З зямлёй не хоча расставацца.*
*Яго нябесную айчынай*
*Каб і хацеў, то не спакусіш...*
*То як жа родны край пакінуць?*
*Знайду ўсё ж важкую прычыну*
*Навек застацца ў Беларусі!*

## ВЕШЧЫЯ СНЫ

*Кажаш, што я снюся па начах...*
*Значыць, свят-агонь яшчэ не счах!*
*Ён стаіўся, як пякельны прысак,*
*Як струмень крынічны, што*
*не высах,*
*А імкнецца ўпарта ў даль-дарогу.*
*Значыць, так патрэбна пану Богу,*
*Каб урэшце ён на свет прабіўся*
*І вясной паводкаю разліўся,*
*Каб табе я вечна сніўся, сніўся,*
*Каб да берага твайго прыбіўся...*

*Кажаш, што я снюся па начах...*
*Ну а ты заўжды ў маіх вачах!*
*Хоць мо ноч стаіць ці ясны ранак,*
*Ты маёй душы агонь-заранак!*
*Свеціш мне, як зорка-зараніца,*
*Зачароўваеш, як казка-небыліца.*
*Як трывожна сэрца маё б'ецца!*
*Але веру шчыра, не здаецца:*
*Так! Яно навек з тваім зліецца!*
*Будзе рытм адзін, адно і сэрца!*

•

*Не чуў я курскіх салаўёў.*
*А мне ж у вушы нехта ўвеў,*
*Што лепшых на зямлі няма.*
*І я паверыў. А дарма!*

*Над жоўтай кручай соснаў медзь...*
*Булькоча Ісеач у даліне,*
*Спавіў хмель вольхі і каліны,*
*Яны варушацца ледзь-ледзь...*

*І з гушчы іх пад купал небны*
*Узлятае гімн-харал хвалебны*
*Жыццю, і сонцу, і вясне.*
*Такі пачуеш толькі ў сне!*

*Той гімн ад кручы адбіваўся*
*І шматгалосна накладаўся*
*На спеў сапраўдных салаўёў,*
*Што з нашых вылятаў кустоў.*

*Стаіш і дыхаць забываеш,*
*Ушчэнт знямелы, сам не свой.*
*Душой у неба залятаеш,*
*А ў думках — "Божа шчыры мой!*
*Хвала табе! Які экстаз*
*Адчуў ты, творачы такое!*
*А так было ж мільёны раз,*
*Пакуль стварыў усё жывое..."*

**Сняжана ХОЛАДАВА**

## ПАСЛЯЧАРНОБЫЛЬСКАЯ КАЛЫХАНКА

*Спі, мой любы сыне,*
*Век табе б не ведаць*
*Пра мае ўспаміны,*
*Пра ліхія беды.*

*Спі, заплюшчы вочкі,*
*Бо пара ўжо спаці.*
*Хай схавае ночка,*
*Як заплача маці.*

*Ўсе мае памылкі*
*Не даруй ніколі,*
*Што ў табе, мой мілы,*
*Адгукнецца болем.*

*Ты не вернеш часу,*
*Каб усё паправіць...*
*Хочаш слухаць казку? —*
*Добра, буду баіць.*

*"Людзі змея злога*
*У палон забралі,*
*Каб ён быў падмогай,*
*Ды не ўпільнавалі.*

*А вясна ў тым годзе*
*І бяды не сніла,*
*Кветак карагодам*
*Ўсю зямлю пакрыла.*

*У маёй старонцы*
*Раптам пад аблокі,*
*Бы другое сонца*
*Узышло высока.*

*Змей на волю выйшаў.*
*То дажджом, то градам*
*Грукнуў грозна ў шыбу,*
*Праляцеў над садам.*

*Яд яго атрутны*
*Быў на ўсіх істотах,*
*Пранізаў нячутна*
*Кветкі і лістоту.*

*Людзі, птушкі, звяры,*
*Ды і ўсё наўкола*
*Гінула без меры,*
*Уздыхала квола..."*

*Казка злая гэта,*
*Што ты любіш слухаць,*
*Стала ў цэлым свеце*
*Ўсім людзям навукай.*

**Хведар ГУРЫНОВІЧ**

•

*Я сваёй Айчынай ганаруся.*
*Шлях ва ўсіх адзіны — да Радзімы.*
*У туман заблыталіся гусі,*
*Ды ні разу шчэ не заблудзілі.*

•

*Вясна. Мільгаценне. І ззянне.*
*І крыкі!*
*І сыплецца золата ў рэчку з лазы.*
*Туман валакуць на хрыбетніках*
*крыгі,*
*Нібыта бухматае сена — вазы.*

•

*Гусіны клін на скразняку*
*Плыве спрадвечным накірункам.*
*І пахне першым пацалункам*
*Туман у волкім лазняку.*

•

*І зноў вясна пачуццяў! Не суняць іх.*
*І на сяло з бярозавых палян,*
*Пяшчотны, быццам пыска*
*ласяняці,*
*Гарэзліва струменіцца туман.*

•

*Вясна спяшае на Палессе.*
*Ужо пчале ў калодзе душна.*
*Туман качаецца на снезе,*
*Як конь, што вырваўся з канюшні.*

**Арцём АРАШОНАК**

•

*Верасовая ноч.*
*Каханне на сузор'ях*
*Пакінулі мы.*
*Стажкамі на раннім полі*
*Ўзнікаюць нашы абрысы.*

•

*Саламяны дах*
*Шуміць пад кроплямі*
*Восеньскага дажджу.*
*У шэрых асцючках*
*Засталося шчэ зерне.*

•

*Паміж клёнаў*
*зорнай сцяжынай блукаю*
*між хмар.*
*Якая цяжкая поўня*
*На тонкім галлі.*

•

*Плач завірухі*
*Ў вячэрнім небе*
*Не сціхае.*
*Жанчына выйшла на ганак.*
*Ці не яе дзіця?*

•

*Восенню вершы*
*Чытаю табе надвячоркам*
*На заснежанай вулачцы.*
*З галінаў зрываюцца*
*Арабінаю мае словы.*

•

*Забыўшыся. Вачу ў зімнім сне*
*Бяскрайняе поле,*
*Па снезе бялюткім*
*Маміны крокі.*



Анатоль САБАЛЕЎСКІ. 1958 г.

•

*Ціхім вечарам*
*Пачую за акном крокі,*
*Выгляну, мо бабуля?*
*Дажджу кроплі падаюць*
*У цэбрык пусты.*

**Сяржук СЫС**

## ПАНЕНЦЫ МОКРЫХ НАЧЭЙ

*Нудны дождж а дзесятай гадзіне,*
*Калі вечар халодны снуе*
*Пракаветнай журбы павуцінне,*
*Выгнаў з дому нарэшце мяне.*
*Сярод вуліц, цемрай параненых,*
*Па траншэях сцішэлых двароў,*
*Стану блукаць да самай раніцы,*
*Каб пабачыць яе ізноў.*
*Раскажу ёй, такой таямнічай*
*Пекнай панначцы мокрых начэй,*
*Як бяздумна парушыўшы звычай*
*Я сышоў ад цяпла і людзей.*
*— Ты паслухай, пад шчыльным*
*дахам*
*Толькі ціша ды супакой...*
*Вось чаму я, без жалю і жаху*
*Пабягу напрасткі за табой...*
*Засмяялася пекная пані,*
*Стрэсла кроплі з доўгай касы,*
*І прапала ў халодным тумане,*
*Там, дзе ўпаў на зямлю небасхіл.*

## У ПАКІНУТЫМ ЖЫТЛЕ

*Зайшоў у дом, дзе не жыве ніхто.*
*Не парушаючы спакою і засоваў,*
*Злінялы цень свой, нібы паліто,*
*Пакінуў на прыступках*
*адмысловых.*
*Тут, у пакоях ціха, ні душы,*
*Рыпяць услед рассохлыя масніцы.*
*Іх цяжкі стогн бяссільны*
*заглушыць*
*Нямы дакор сіроцкае бажніцы.*
*Скажыце мне, выявы абразоў,*
*Дзе той, хто спавядаўся*
*перад вамі,*
*Хто кінуў дом, а сам адсюль*
*сышоў?*
*І я адказ пачуў пад абразамі:*
*"Хто быў наперад, той ужо даўно,*
*Узлезшы на бялюткія аблокі,*
*Знік незваротна ў вечным*
*руме сноў...*
*А шлях туды ёсць блізкі і далёкі.*
*Зірні, як прагна шчэрыцца праём,*
*Дзе дзень і ноч палюе Зніч*
*змарнелы,*
*Прымі ўладанне, стань гаспадаром,*
*Каб людскае жытло не апусцела.*
*А ледзь надыдзе вызначаны час*
*І ў Судны дзень завершацца*
*падлікі..."*
*Я прыгадаў, што вельмі мала нас*
*І скінуў на парозе чаравікі.*

# 13-Я ПАЛАСА

Сваркі, бойкі і абразы,
Што б пры гэтым не казалі,
Нас утрымлівалі разам,
Бо пасля ўжо са слязамі
Абвівалі Вы мне шыю
І "кахаю" зноў шапталі...

Сталі мы, на жаль, чужыя,
Як сварыцца перасталі.

Анатоль ЗЭКАЎ

## ЧЫМ ЛЕПШ, ТЫМ ГОРШ

*Сталі смешнымі ўсе сваркі*
*І наіўнымі — абразы.*
*А хіба яшчэ што з Вамі*
*Нас утрымлівала разам?!*

Алесь БАДАК

## СЭНС І СЕКС

*Калі жыццё губляе сэнс,*
*Хачу тады на ўсё забыцца,*
*Пайсці ў дрымотны,*
*цёмны лес*
*І, бы ў дзяцінстве, заблудзіцца.*

Змітрок МАРОЗАЎ

Калі жыццё губляе сэнс,
А сэнс яно тады губляе,
Як не цікавіць болей секс,
Бо сіла ўжо, на жаль, не тая,
Тады адзіны інтарэс —
На ўсё і ўсіх вакол забыцца,
Пайсці ў дрымотны,
цёмны лес,
Дзе аніводнай маладзіцы.

Валянцін ЛУКША

## ПРА САМАЕДСТВА

Пажар забраў у беларуса хату.
Забраў карову.
Слёзы — цераз край.
І так было заўжды
Бяды
Багата,
А тут кладзіся — спешна памірай.

Ідзе няшчасны сумнаю дарогай,
Насустрач у адзенні белым Бог:
— Чаму ты долу хілішся, нябога?
Прасі, каб я ў бядоце дапамог...

— За бедным незваротна
ходзяць беды.
Карову страціў —
Гора не суняць...
Няхай буронка здохне і ў суседа,
Тады змагу спакойна, Божа,
спаць...

Ігнат СЦІЗОРЫК

*Укралі барану*
*Нібы жыцця спыніўся рух...*
*Ну, што рабіць —*
*укралі плуг.*

Казімір КАМЕЙША

Прачнуўся, у вакно зірнуў —
двор, бачу, апусцеў.
Крычу:
— Укралі барану!
Лавіце злодзея хутчэй!

Такой не стала бараны!..
Туды-сюды гляджу:
пад што цяпер, скажыце мне,
хавацца ад дажджу?

Хоць быў з цвярозай галавой,
ды, бач, усё праспаў...
А разам з тою бараной
шчэ й брыгадзір прапаў.

## КАРАЦЕЙ КАЖУЧЫ

Калі твая песенька спета, дык апладысментаў не дачакаешся.

Іншая надрукаваная кніга — гэта гісторыя хваробы яе аўтара.

Бура ў шклянцы вады ўзнікае нярэдка пасля выпіўкі.

Жыццё ў мастацтве не выключае неабходнасць мець кватэру.

Барыс КАВАЛЕРЧЫК

Ігару ЛУЧАНКУ

*аўтару гімна ўсебеларускага фестывалю гумару ў Аўцюках*

Відаць па ўсім, што Лучанок
Даў аўцюкоўцам гімн знарок,
Бо не да жартаў стала ім —
Змяніўся лад жыцця зусім.
Аж да апоўначы не спяць,
Каб гімн свой хорам праспяваць,
А з першым пеўнем устаюць —
І зноў гімн стоячы пяюць!

Павел САКОВІЧ

Анатоль ЦЫРКУНОЎ

## КАМЕНЬЧЫКІ НА ДАЛОНІ

У рыначнай штурханіне,
Не заштурхайце Феміду.
Яна ж сляпая.

А ці трэба лічыць
Канібалам таго,
Хто есць самаго сябе?

"Хто без граха, кінь у мяне камень", —
Крыкнуў натоўпу аратар...
У яго шпурнулі цагліну.

На таможні затрымалі
Данайцаў з дарамі.
За кантрабанду.

## НЕ ТРЭБА ХВАЛЯВАЦЦА!

Міхась СЛІВА

*Сярод пісьменнікаў:*
*— Я таксама хачу атрымаць літаратурную прэмію...*
*— Тады пішы!*
*— Каму?*

Малады пісьменнік даў пачытаць свой раман знакамітаму. Той, азнаёміўшыся, вяртае са словамі:
— Канцоўка рамана не стасуецца з пачаткам.
— Нічога страшнага, — адказвае аўтар. — Усё роўна яго да канца ніхто не дачытае.

Янусь МАЛЕЦ

## З НАЗІРАННЯЎ ПАРАДЫСТА

Бывае стрэнецца паэт
З такой паэзіяй-смярдзючкай,
Што хочацца схапіць
не ручку,
А шматзарадны пісталет!

## САНЕТЫСТ

Імпэтна піша ён санеты,
Прыемнай думкаю сагрэты:
"Закон я ведаю харошы:
Чым больш напішаш —
болей грошай!"
А так напружвае ён твар
Таму, што лічыць ганарар...

Малюнкі П. КАРПОВІЧА і А. ГАРМАЗЫ

# У ФОКУСЕ «ФОРУМУ»

Міжнародны часопіс "Форум", які выдаецца ў Маскве, з задавальненнем чытаюць у многіх гарадах свету, сярод якіх Амстэрдам, Афіны, Берлін, Лісабон, Лондан, Осла, Парыж, Пекін, Прага, Рым, Стакгольм, Тэль-Авіў, Токіо і іншыя, не кажучы аб тым, што ён карыстаецца вялікай папулярнасцю ў так званым блізкім замежжы. Несумненна, што з цікавасцю пазнаёмяцца прыхільнікі "Форуму" і з яго чарговым, 26—27 нумарам, які падрыхтаваны, як тэматычны, аб чым сведчыць ужо і надпіс на першай старонцы вокладкі: "Полесье: хлеб и песня".

Адкрываецца ж ён вершам М. Башлакова. Дарэчы, творы беларускіх, рускіх, украінскіх паэтаў багата прадстаўлены ў раздзеле "Стихотворная тетрадь". З беларускіх аўтараў змешчаны вершы Юрыя Фатнева, Ніны Шклярavай, таго ж Міхася Башлакова, Анатоля Сыса, Фелікса Мысліцкага. У раздзеле ж "Проза наших дней" апублікавана апавяданне Васіля Ткачова "Дзень шахцёра".

Значнае месца ў гэтым нумары, як і ў папярэдніх, надаецца публіцыстычным матэрыялам, прысвечаным цесным узаемасувязям трох братніх народаў, якія, безумоўна, не абыходзяць увагай і чарнобыльскую праблему. Галоўны рэдактар "Форуму", сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі Уладзімір Мусаліцін выступае з публіцыстычным роздумам "Што ведае гінкго?". Ён жа гутарыць са старшынёй Гомельскага аблвыканкама Аляксандрам Якабсонам — "Расці і мацней, славянскае дрэва!". Старшыня ж Гомельскага абласнога Савета дэпутатаў Валерый Сяліцкі выступае з артыкулам "Будзем крочыць у нагу. Геапалітычнае значэнне інтэграцыйных працэсаў паміж Беларуссю і Расіяй". Герой нарыса Рыгора Андрэяўца "Жураўліны прычал" — прэзідэнт расійскай карпарацыі "Интеллектсервис" Георгій Казак, які нарадзіўся ў вёсцы Грыцкавічы, што ў Крупскім раёне.

У падборцы "Редакционная почта" прыцягвае ўвагу карэспандэнцыя загадчыка аддзела абанемента Цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя Герцэна г. Гомеля Наталлі Малашэнкі, якая расказвае аб тым, як паспяхова працуе ў горадзе над Сожам літаратурна-мастацкі салон "Сустрэчы на Замкавай", што аб'ядноўвае мастацкую інтэлігенцыю і гарадское краязнаўчае таварыства "Гамяльчанін".

А да ўсяго нумар багата ілюстраваны каляровымі здымкамі, сярод якіх нямала і такіх, што тычацца сённяшняга жыцця Беларусі.

А. М.

# «АБУДЖАНЫ Ў ПАКУЦЕ ДУХ»

30 ліпеня ў выставачнай зале Літаратурнага музея М. Багдановіча адкрылася выстава драўлянай скульптуры "Абуджаны ў пакуце Дух" маладога майстра Данііла Тварановіча-Сеўрука. Прапусціўшы праз сваю душу наш сусвет, пераўтварыўшы яго па-свойму, скульптар паказвае нам, як ён бачыць і ўспрымае наваколле: а ўсё навокал жывое і мае сваю душу, усе прадметы адухоўленыя. Перад намі з глыбінь гісторыі паўстаюць фрэгаты старадрукі, арбалеты, мячы, хрысціянскія рэліквіі, якія дапамагаюць нам глядзець на наш свет з большай любоўю.

Святлана КІСЛОВА

***Мікола Макарцоў вядомы нам як стваральнік першага ў Беларусі фальклорнага тэатра "Жалейка". На чале з сваім рэжысёрам гэты адметны творчы калектыў прайшоў шлях ад самадзейнага да прафесійнага, гастраляваў у блізкім і далёкім замежжы, з вялікім поспехам удзельнічаў у прэстыжных міжнародных і сусветных фестывалях у Расіі, Польшчы, Індыі.***
***Апошнім часам М. Макарцоў сцвярджае сябе як здольны рэжысёр-пастаноўшчык рэспубліканскіх тэатралізаваных святаў і фестываляў, а таксама ў якасці даследчыка народнай тэатральнай культуры, фалькларыста, сцэнарыста. Ён з'яўляецца аўтарам п'есы "Тураўская легенда" і кніг "Каб не перасыхала крыніца", "Слова пра творцаў", "Па святочных шляхах Беларусі", "Сцэнарыі народных свят і абрадаў".***
***Свае артыстычныя здольнасці М. Макарцоў праяўляў не толькі ў фальклорным тэатры, пастаноўках-відовішчах, але і на тэлеэкране. Ён быў вядучым вячорак на Гомельскай студыі тэлебачання, здымаўся ў тэлевізійных фільмах "Атланты і карыятыды" па рамане Івана Шамякіна, у "Новай зямлі" па паэме Якуба Коласа, у фільме "Чырвоны востраў" па Міхаілу Булгакаву, а таксама ў фільме "Анастасія Слуцкая". М. Макарцоў з'яўляецца аўтарам і вядучым радыёперадачы "Творцы".***
***Падчас сваіх творчых вандровак па Беларусі прыходзіць да Міколы Макарцова і паэтычнае натхненне, якое ён занатаваў у сваіх вершах.***

Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

Мікола МАКАРЦОЎ

## ЧЫСТЫ ПОДЫХ МАЁЙ БЕЛАРУСІ

*Сяпць дамы на бялюткім*
*Абрусе.*
*Першы снег — быццам*
*Першы ўздых.*
*Чысты подых маёй*
*Беларусі.*
*Ты у марах плывеш*
*Веснавых.*
*Прыгадаецца радасны*
*Вецер,*
*Прыгадаецца даўні той пах.*
*Закіпіць неабсяжная*
*Квецень,*
*У знаёмых з маленства*
*Садах.*
*І бярозы, як белыя вежы,*
*Зноў асвецяць знаёмы*
*Мне гай —*
*Ці то май зноў зямельку*
*Аснежыць,*
*Ці то снежань захопіць,*
*Як май.*

## НАСТАЛЬГІЧНАЯ ПЕСНЯ

*Праз радзіму лячу,*
*Праз радзіму імчуся.*
*Прыпыніся, цягнік,*
*Я назад азірнуся.*
*Тут дзяцінства прайшло,*
*І юнацтва ляцела.*
*А вярнуцца назад,*
*Яно ўжо не схацела.*
*Паімчаў зноў цягнік,*
*І — усё расплялося.*
*І ні ў яве, ні ў сне,*
*Яно больш не збылося.*

## ЯНКА КУПАЛА

*Слова нараджаецца з зямлі,*
*З той зямлі, што сына нарадзіла,*
*Парасткі зялёныя пусціла*
*У палі, у пушчы, у гаі.*
*Нават на балоты ды пяскі...*
*А яно квітнее, гэта слова,*
*Цветам наліваецца барвовым*
*Водарам з духмянае ракі.*
*Сонна пацягнулася дрыгва,*
*Каб сказаць, што песня не загіне.*
*І шуміць, шуміць вярба аб сыне,*
*І шапоча сціхлая трава.*
*Гэта трэба, трэба уяўляць,*
*Як зямля, што нарадзіла Янку,*
*Песціць старадаўняй калыханкай*
*Сённяшняю нашу сенажаць.*

Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

## ЛАСТАЎКІ НАД АКНОМ

*Радасць у сэрцы зноў*
*Ластаўкаю шчабеча.*
*Ластаўкі над акном*
*Помніцца будуць вечна.*
*Ластаўкі над акном.*
*Мы ім радня таксама,*
*Бо і для іх наш дом*
*Лепшы і мілы самы.*

*Ластаўкі над акном,*
*Перш чым падацца ў вырай,*
*З неба жагнаюць дом,*
*Нас асяняюць шчыра.*

*А як з краёў чужых*
*Ластаўкі прыляцяюць,*
*Мы сустракаем іх*
*І, як радню, вітаем.*

*Ды не вярнуць гадоў...*
*Зараз ляцім таксама*
*З выраю ў родны дом*
*Ластаўкамі мы самі.*

*Бачым наш дом гняздом*
*Па-над акном азерца...*
*Як і ў маленстве, зноў*
*Радасць шчабеча ў сэрцы.*

## ПАМЯЦІ АЛАІЗЫ ПАШКЕВІЧ

*Скрыпка грае — сэрца заміpae*
*І лучынка свечкаю гарыць...*
*Гэта гранне чуюць ва ўсім краі,*
*Гэта свечка — зоркаю ўгары.*

*Цёткі Алаізы скрыпка грае.*
*Цётчына лучынка так гарыць...*
*Гэта гранне, быццам дакарае,*
*Гэта зорка — іскраю зары,*

*Беларусь, тваёй зары свабоды.*
*Цётчын на свабоду помнім хрэст:*
*Стань жа беларускі люд народам!*
*І калі ўжо будзе гэты фэст?*

*Ёсць дзядзькі асілкі ў нас:*
*Францішак,*
*Янка з Канстанцінам і Максім.*
*Ім удзячнасць наша. Ды не лішне*
*Цётцы пакланіцца нам усім.*

*Ведаем мы ўсё: не цётка голад.*
*Цётка, дзякуй Богу, ёсць у нас.*
*Міласэрдзя нам сястра яна.*
*Сонца перад ёй схіляе голаў...*

*Некалі нябёсы ўсе раззорыць*
*Роднай Беларусі час удач...*
*У памяці ж не знікне кроў*
*з разораў*
*І чуваць над імі скрыпкі плач...*

## СУНІЦЫ ДЛЯ БАГДАНОВІЧА

*Максім перад тым як пакінуць*
*свет гэты*
*Прынесці суніц папрасіў.*
*Для паэта*
*У Ялце іх дзесьці знайшла*
*гаспадыня.*
*Няхай яе рай на тым свеце*
*абдыме.*

*А потым зайшла і убачыла*
*з жалем:*
*Суніцы ў далоні Максіма ляжалі,*
*Аднак ён не ўсе утрымаў*
*у знямозе, —*
*Рассыпаных болей было*
*на падлозе...*

*...Напэўна, Максіму і там*
*недзе сніца:*
*У роднай старонцы паспелі*
*суніцы.*
*І часам айчыны лясам*
*недзе сніца,*
*Што спеляць яны для Максіма*
*суніцы.*

*І словы сунічныя спеляць*
*тут людзі.*
*Нямала яшчэ для Максіма*
*іх будзе.*
*Не раз яшчэ ў клопаце вечным*
*аб хлебе*
*Убачым: суніцы рассыпаны ў небе...*

Вячаслаў КОРБУТ

## ЛІСТАПАД

*Ты падкрадзешся да акна*
*І ўсміхнешся лістападу.*
*О, я ўсмешцы гэтай рады*
*І на душы маёй вясна.*
*Так-так, я сёння лістапад,*
*Халодны, залаты і мірны,*
*Цягучы, сумны, дужа лірны,*
*Так, сумны ліст увесь апаў*
*Пад твой вялікі дом санорны*
*І разляцеўся, паляцеў*
*У край чужы, у край халодны,*
*Каб я ад болю ацалеў.*
*Багіня восені святая,*
*Стаіш апоўнач ля акна,*
*Бывай, з дажджамі адлятаю*
*У край, дзе сэрцу цеплыня...*



Уладзімір КАРАТКЕВІЧ у Юрмале. 1967 г.

***Джорджа Нікаліч — сербскі паэт, які жыве ў ЗША, аўтар кніг, выдадзеных у эміграцыі — "Трое славянскіх паэтаў" (1975, сумесна з Іосіфам Бродскім і Тыматэушам Карповічам); "Па старажытных рэльефах" (1975), "Дрэвы, травы" (1978). Нядаўна пачаў друкавацца на радзіме, дзе запар выйшлі тры зборнікі: "Галава серба" (2001), "Нябесны сад" (2001), "Допіс" (2001). Займаецца таксама літаратурным перакладам з сербскай мовы на англійскую і з англійскай на сербскую. Нікаліч прадстаўлены ў анталогіях амерыканскай і сербскай паэзіі, з'яўляецца лаўрэатам шэрагу літаратурных узнагарод, у ліку якіх прэмія Акадэміі амерыканскіх паэтаў за 1977 год і літаратурная прэмія імя Рыста Раткавіча (2001). На беларускую мову перакладаецца ўпершыню.***

**Джорджа НІКАЛІЧ**

## САНЕТ ПРА ПЕСНЮ

*Збіраюцца словы разам,*
*Як гронкі саспелых арэхаў,*
*Збіраюцца гэтак, часам,*
*Сузор'і начэй для ўцехаў.*

*Мне і песні ў стварэнні*
*Вузкая сцежка даецца.*
*Так і арэху ў спяленні*
*Цвердзю шкарлупа нальецца.*

*Выспее плод, што ад Бога,*
*І песняю слова стане.*
*Блакіту з пяра льецца многа.*

*Хай крэменю іскра адразу*
*Падоўжыць хвіліну ранняя,*
*І спыняцца стрэлкі часу.*

## ЗАПІС

*Аднойчы і кветка ў сябе збірае*
*Усё каб прайсці да цябе праз свята*
*І поўдзень праз поле як кроў*
*праступае*
*У горкую долю дзе горка было*

*І неба складзецца ў вялікае сонца*
*У злітак вялізны жывога святла*
*І будзеш лятаць ты над светам*
*бясконца*
*Над сумнай вясёлкай што*
*яркай была*
*І траплю я ў свет не вядомы*
*нікому*
*І думаць не кіну што будзеш*
*там ты*
*Ці воблакі гэта ці дым*
*па-над домам*
*Ці я сёння грэшны ці нават святы*

Пераклад Віктара ШНІПА

## ВЕРШ НА МОЙ 33-ЦІ ДЗЕНЬ НАРОДЗІН

*Сяджу і думаю:*
*Як зменшыліся дні.*
*Як ночы цемру злосную згушчаюць,*
*І думкі акрыляюцца — яны*
*Нібы над мёртвым,*
*нада мной кружляюць.*

*Сяджу і ўчытваюся*
*У Евангелля радкі,*
*Як людзі Сына Божага распялі,*
*Як Ён памёр за іхнія грахі.*
*І гэты жах працягваецца далей.*

*Сяджу, думкі натую*
*Пра Уваскрэсенне,*
*Якое нас надзеяю сілкуе.*
*Хоць Юдавай канца няма мане,*
*Але распяцце веру нам даруе.*

*Сяджу, высноўваю*
*Пагрозны напамін —*
*Што вымаўленае згарае ў слове,*
*Што застанецца попелам адным*
*Зямля, і мы, і Сонца ў свеце новым.*

*Сяджу ў маўчанні.*
*Кроў мая, што лёд,*
*Вакол мяне Сусвет імчыцца па крузе.*
*А думкі-пчолы ўсё шукаюць мёд*
*У лесе, дзе ўжо квецені не будзе.*

## ВЫСОКІЯ ПРАБАЧЭННІ

*Саджанец сілкуе корань чорны.*
*Злучаны яны, як млын і жорны.*

*Сад квітнее, і не чутны свету*
*Доўгіх ран-карэнняў стогны-*
*шэпты.*

*Ёсць у кожнай радасці ўзвышэння*
*Дараванне тых, хто ў прыніжэнні.*

Пераклад Людмілы РУБЛЕЎСКАЙ

## ТАЯМНІЦА ЧАСУ

*Якая гадзіна там*
*На вялікім гадзінніку Божым?*
*Схавана ад нас гэтая*
*часу таямніца вялікая*

*Існуе бадай такі над-гадзіннік*
*Па якім звяраецца час наогул*
*Час пачатку і канца*
*Альбо хоць час вялікага пачатку*
*Які вылучаецца з плыні часоў*
*Мінулых і будучых*
*Гэтак як Біблія вылучаецца*
*З кніг*
*Пра-кніга ўсіх кніг і ўсяго*
*пісьменства*
*Гэтак як Бог вылучыўся з людзей*
*Як храмы вылучаюцца*
*Сярод усіх збудаванняў*
*Як магілкі вылучаюцца*
*Сярод іншых прытулкаў*

*Існуе бадай такі гадзіннік*
*Па якім падганяюцца стрэлкі*
*сусвету*
*Па якім планеты выстройваюцца*
*ў свой парадак*

*Калі сонца Божая званіца*
*Дзе стаіць яна ад пачатку*
*пачаткаў*
*Колькі часу цяпер паводле сусвету*
*Як выглядае дзень*
*у календары Бога*
*Ці ёсць там да поўдня і апоўдні*
*Што за працягласць у Божай*
*мінуты*
*А ці і там час вымяраецца*
*Гэтаксама як і ў нас*
*І аднойчы ўсё роўна скончыцца*

## СЕРБІЯ

*Кон гінуць і выжываць*
*Магілы скрозь адна на адной*
*Ледзь-ледзь прарастае трава*
*Над калыскамі грай груганоў*
*Кон гінуць і выжываць*

Пераклад Івана ЧАРОТЫ


К. ЦВІРКА, М. КУСЯНКОЎ, А. ПІСЬМЯНКОЎ, В. РАКАЎ і Г. ПАШКОЎ. 1985 г.

***Іосіф Бродскі — імя, якое гаворыць само за сябе. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі, звышталенавіты паэт, драматург, даследчык літаратуры, ён пакінуў незвычайна яркі след на небасхіле сусветнай паэзіі. Пры жыцці яму давялося зведаць нямала пакут, сярод якіх асноўнай было неразуменне з боку суайчыннікаў. Эмігрант, выгнаннік, вечны падарожнік па свеце, Бродскі ўвасобіў у сваёй творчасці агульначалавечае, стаўся зразумелым розным краінам і народам. Наша беларуская, як і многія іншыя мовы, думаецца, можа перадаць усе найтанчэйшыя, найдалікатнейшыя адценні думкі, слова, вобразнасці глыбокіх філасофскіх вершаў Іосіфа Бродскага.***

**Святлана ЯВАР**

**Іосіф БРОДСКІ**

## ПРАРОЦТВА

*З табою будзем жыць паўз берагі,*
*адмежаваўшыся высознай дамбай*
*ад кантынента; навакол кругі*
*утвораца ад самаробнай лямпы.*
*Змагацца ў карты будзем*
*мы з табой,*
*і слухаць, вар'яцее як прыбой,*
*кашляць і выдыхаць —*
*так непрыкметна,*
*падчас занадта моцных рухаў*
*ветру.*

*Стары я буду, маладая — ты.*
*Ды будзе так, як вучаць піянеры,*
*бо пойдзе лік на дні — не на*
*гады, —*
*што засталіся нам да новай эры.*
*Там, у Галандыі, наадварот,*
*з табою мы скапаем свой гарод*
*і будзем смажыць вустрыц*
*за парогам*
*і ласавацца свежым васьміногам.*

*Няхай над агуркамі дождж ідзе,*
*з табою загарым па-эскімоску,*
*і пальцам ты з пяшчотай*
*правядзеш*
*уздоўж цнатлівай беленькай*
*палоскі.*
*Ключыцу ў люстры ўгледзець*
*я пайду*
*і там за спінай хвалю ўсё ж знайду,*
*старэнькі гейгер з алавянай рамкай*
*і выцвілай ды прасмярдзелай*
*лямкай.*

*Зіма ляціць... Закруціць як хаця*
*чарот на даху нашым*
*на драўляным.*
*І зробім калі ўрэшце мы дзіця,*
*дык назавём Андрэем або Ганнай,*
*каб да прывабнай пысачкі прывіта*
*была Расія разам з алфавітам,*
*каб першы гук з уздыхам*
*працягнуўся*
*і ў будучыні рэхам адгукнуўся.*

*Змагацца ў карты будзем мы; тады*
*нас разам з казырамі рух вады*
*ад берага знясе з журбой адліву.*
*І будзе наша дзіцянё маўкліва*
*глядзець, дарма шукаючы адказ,*
*як матылёчак б'ецца ўсё аб лямпу,*
*калі і для яго надыдзе час*
*назад вярнуцца, перайсці*
*праз дамбу.*

## АГОНЬ, ЯК ЧУЕШ...

*Агонь, як чуеш ты, пачаў згасаць.*
*А цені па кутках — заварушыліся.*
*І нельга на іх пальцам паказаць*
*ды крыкнуць немажліва,*
*каб спыніліся.*
*Так, войска гэтае не чуе слоў.*
*Пастроена ў карэ, ў ланцуг*
*сабрана.*
*Ідзе бязгучна ў бой яно з кутоў,*
*я апынуўся ў цэнтры нечакана.*
*І выбухі ўсё вышай цемрыні,*
*падобныя на клічнікі-хімеры.*
*А цемра ўсё гусцее з вышыні,*
*дайшла да падбароддзя, рве паперу.*
*Знікаюць стрэлкі, і прыходзіць*
*страх:*
*не толькі не відаць іх —*
*іх не чутна.*
*І блік застаўся тут хіба ў вачах,*
*застылых нерухома ў часе*
*смутным.*
*Агонь пагас. Ты чуеш: ён пагас.*
*Пад столлю толькі чорны*
*дым кружляе.*
*Ды гэты блік — не кідае ён нас,*
*дакладней, цемры ён не пакідае.*

## МАЛІНАЎКА, ТЫ ВЫПЫРХНЕШ...

*Малінаўка, ты выпырхнеш*
*мо з трох*
*маліннікаў і ўспомніш у няволі,*
*у змроку як залазіць на гарох,*
*варсістым лубінам зарослы, поле.*
*Праз сеціва галін дзіўнай красы*
*— туды, дзе, застываючы*
*на імгненні,*
*нялічаныя кропелькі расы*
*збягаюць па стручках*
*ад сутыкнення.*

*Маліннік здрыганецца, ды ў залог*
*пакінута здагадка, бо, магчыма,*
*той паляўнічы, ставіў што сіло,*
*ламаччам хруснуў, цепнуўшы*
*плячыма.*
*А насамрэч — сцяжынка ўсцяж*
*даліны*
*у змроку выгінаецца, бялее.*
*Нібы няма ні гуку страляніны,*
*не бачна ні Стральца, ні Вадалея.*

*І толькі ноч, развёўшы два крылы,*
*ляціць па-над ляснымі*
*цуда-шатамі,*
*— настойліва, як памяць аб былым,*
*маўклівым, ды жывым*
*пад тымі спратамі.*

•

*Я здолеў адысці прэч ад людзей,*
*цяпер прэч ад сябе іду самога.*
*Не трэба плоту з жэрдак.*
*Больш ідэй*
*няма — і ў люстры Я, нябога.*
*Адно пахмурнасць рысаў бачу ў ім,*
*шчацінне і няроўнасць падбароддзя.*
*Трэльяж для тых, разводзіцца хто,*
*— дым,*
*які мяне ад свету адгародзіць.*
*Туды і змрок залазіць у акне,*
*і поле з велізарнымі шпакамі,*
*і возера — пралом нібы ў сцяне,*
*завершанай яловымі зубцамі.*
*Праз нейкі міг з азёрных*
*гэтых дзір,*
*наогул цераз лужыну — задача! —*
*сюды палезе свет, не мой кумір,*
*альбо я свет свой незваротна*
*страчу.*

Пераклад Святланы ЯВАР

**Здымкі Ул. КРУКА, А. КАЛЯДЫ і С. ПАНІЗНІКА**

**ШАНОЎНЫЯ АЎТАРЫ!**

**Тэрмінова дашліце ў рэдакцыю дадзеныя сваіх пашпартоў і дакладныя адрасы. Інакш ганарараў не атрымаеце.**

**Супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа выказваюць глыбокае спачуванне народнаму паэту Беларусі, сябру Коласавага дому Нілу Гілевічу з прычыны смерці жонкі.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне народнаму паэту Беларусі Нілу Сымонавічу Гілевічу ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю жонкі, Ніны Іванаўны.**

ТВОРЧАСЦЬ

***Вось ужо шмат гадоў кожную нядзелю, з вясны да прымаразкаў, штатныя музыкі гарадскога ўпраўлення культуры дораць магілёўчанам радасць сустрэчы з мастацтвам духавога аркестра. У такія хвіліны разумееш, як неабходна людзям далучэнне да жывой музыкі — і ў дні ўсенародных урачыстасцяў, і ў час адпачынку. Бо нішто гэтак не яднае людзей, як музыка, выкананая непасрэдна для цябе — і без аніякай фанаграмы!***

# І НІЯКІХ ФАНАГРАМ



"Прапісаны" гэты калектыў у Магілёўскім гарадскім цэнтры культуры і адпачынку. Мастацкі кіраўнік і дырыжор аркестра Васіль Парашчанка — былы дырэктар дзіцячай спецыялізаванай музычнай школы № 4 па навучанні на духавых і ўдарных інструментах, які зусім нядаўна пайшоў на заслужаны адпачынак, — цудоўны музыкант, даравіты педагог і арганізатар, энтузіяст сваёй справы. Многія творы, якія выконвае духавы аркестр, гучаць у яго перапажэннях і інструментоўках.

Аркестр, якому ўжо за сорак, годна працягвае традыцыі духавой музыкі. Ён заўсёды быў абавязковым удзельнікам святаў, парадаў, надаючы кожнаму масаваму відовішчу прыцягальнасць для гледачоў і поспех... Вядома, цяпер жыццё духавых аркестраў прыкметна сцішылася. І калі дзесяць гадоў таму стварылі ў Магілёве гарадскі аркестр з 34-х музыкантаў, дык ужо на новых умовах. Фінансаванне — з гарадскога бюджэту.

У складзе калектыву як прафесійныя музыканты, так і самадзейныя: студэнты і выкладчыкі музычнага вучылішча, рабочыя, інжынеры, пенсіянеры. Рэпетыцыі раз на тыдзень, звычайна ўвечар з 6 да 9. Выступленні, як правіла, не радзей за раз на тыдзень. За год — не меней як 80 канцэртаў.

Феерверк музычных прыдумак вылучае кожную праграму. Класічная і традыцыйная танцавальная музыка перагукаецца з папулярнымі сучаснымі рытмамі. Вялікую ўвагу аркестр надае папулярызацыі твораў беларускіх аўтараў. І, зразумела, рэпертуар канкрэтнага выступлення залежыць ад характару мерапрыемства: падчас акцый, звязаных з ваенна-патрыятычным выхаваннем, гучаць мелодыі ваенных гадоў; на гарадскіх святах — апрацоўкі народных песень, рамансаў, рытмы полькі ды кракавяка. І знаёмыя мелодыі Брамса, Штрауса, фрагменты з аперэт, папуры на тэмы эстрадных шлягераў... А яшчэ кожны музыкант (саксафаніст, флейтыст, ударнік, трамбаніст ды інш.) можа сыграць сола, бываюць нават інструментальныя імправізацыі.

Аркестр ведаюць далёка за межамі Магілёўшчыны; ён падтрымлівае стасункі і з музыкантамі памежных абласцей Расіі, а ў 1996 г. удзельнічаў і ў Міжнародным фестывалі духавой музыкі "Славацкае танга", што праходзіў у Славакіі. Магіляўчане ж ганарацца сваім прафесійным духавым аркестрам і лічаць яго упрыгажэннем роднага горада.

**Валянціна БОНДАРАВА**
г. Магілёў

*НА ЗДЫМКУ: Барытон ды саксафон.*

**Фота М.ЖЫЛІНСКАЙ**

УВАГА!

## СТЫПЕНДЫЯЛЬНАЯ ПРАГРАМА МІНІСТРА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ ПОЛЬШЧА GAUDE POLONIA

Польскі Нацыянальны цэнтр культуры аб'яўляе набор на шасцімесячныя курсы ў рамках стыпендыяльнай праграмы міністра культуры Gaude Polonia. Праграма Gaude Polonia скіравана да маладых творцаў культуры (мастакоў, літаратараў, перакладчыкаў з польскай мовы, музыкантаў, кінематографістаў, мастацтвазнаўцаў, літаратуразнаўцаў, гістарычных помнікаў, музейных работнікаў) Беларусі і Украіны. Курсы праводзяцца з 1 лютага да 31 ліпеня 2004 г. Стыпендыяты будуць вызначаны на конкурснай аснове. Заявы на ўдзел у конкурсе і неабходныя дакументы:

— анкета,

— 2 фотаздымкі,

— мінімум адна рэкламацыя прафесара, ці культурнай установы, творчых саюзаў, таварыстваў і г.д. на польскай (англійскай) мове, якая змяшчае наступныя дадзеныя: прозвішча рэкамендуючага, пасада, назва ўстановы, горад, характар узаемных адносін (выкладчык, куратар, працадаўца, інш.), творчыя дасягненні кандыдата, ацэнка праекта стажыроўкі кандыдата ў Польшчы);

— копія дыплома аб вышэйшай адукацыі (перакладзеная на польскую мову і пацверджаная натарыяльна);

— ксеракопіі дыпломаў, узнагарод у конкурсах, фестывалях, курсах, выставах з перакладам на польскую мову;

— ксеракопіі рэцэнзій з перакладам на польскую мову;

— праект стажыроўкі (да 2 старонак) з указаннем: галоўнай мэты стажыроўкі, праграмы і месца, дзе хочаце яе праходзіць, прапануемых творчых майстэрняў, значэння праекта для вобласці якую прадстаўляе кандыдат, для ўласнай прафесіянальнай кар'еры, установы, у якой працуе, для краіны, а таксама абгрунтавання свайго ўдзелу ў праграме Gaude Polonia,

просім накіроўваць на адрас Пасольства РП у РБ (220034, Мінск, вул. Румянцава, 6), ці Польскага Інстытута ў Мінску (220050, Мінск, вул. Валадарскага, 6) да 15 кастрычніка 2003 г.

Падрабязную інфармацыю аб праграме Gaude Polonia і анкеты заяў можна знайсці на старонцы Інтэрнэта: www. nck.pl/wspolmlod_gp.php, альбо заказаць па электроннай пошце: nck@nck, у польскіх дыпламатычных і консульскіх прадстаўніцтвах у Мінску, Брэсце, Гродне і Кіеве і ў Нацыянальным цэнтры культуры ў Варшаве, тэл. +48 22 827-39-46, альбо 826-14-09.

ПРЭМ'ЕРА

## «МІКІТАЎ ЛАПАЦЬ» У РАГАЧОВЕ

Шмат спектакляў па п'есах беларускіх драматургаў паставіў народны тэатр Рагачоўскага гарадскога Дома культуры пад кіраўніцтвам рэжысёра заслужанага работніка культуры Беларусі Аляксея Сількевіча.

І вось новая прэм'ера — спектакль па п'есе — вадэвіль Міхася Чарота "Мікітаў лапаць". Гледачы былі ў захапленні ад бліскучай ігры таленавітых артыстаў народнага тэатра, дынамічнага дзеяння, народнай музыкі, спеваў і танцаў. На высокім узроўні было музычнае афармленне — пастараліся народны фальклорны гурт "Добры вечар" пад кіраўніцтвам Міхаіла Зайцава, а таксама музыкант Фелікс Старобінскі. Ацанілі гледачы і добрае веданне як старэйшымі, вопытнымі, так і маладымі артыстамі роднай мовы.

**Міхась СЛІВА**

ПЛАНЫ



## ПРА «ШЛЯГЕР» ПАМОЎКА...

Адбылося пасяджэнне аргкамітэту VIII Міжнароднага фестывалю "Залаты Шлягер". Як вядома, цяпер гэтае папулярнае песеннае свята будзе праводзіцца кожныя два гады. Так што за час, які аддзяляе сёлетні фэст ад папярэдняга, яго чыннікі мелі магчымасць перагледзець традыцыі "Шлягера" і падкарэкціраваць агульную канцэпцыю.

Скарачаецца тэрмін правядзення імпрэзаў: з традыцыйнага лістападаўскага тыдня да пяці дзён. Больш разнастайнымі па жанрах будуць канцэртныя праграмы: як той казаў, ад канкана да "Лявоніхі", ад опернай арыі да джазавай імправізацыі. Годнае месца займае ў планах і ўпадабаная публікай "Рамансіяда", і Першы конкурс імя У. Мулявіна для маладых эстрадных выканаўцаў... Дарэчы, пра маладых: арганізатары абяцаюць зрабіць належную "раскрутку" новага творчага калектыву, удзельніка "Залатога Шлягера" — Прэзідэнцкага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам В. Бабарыкіна.

Фестываль пройдзе паводле арыгінальнага сцэнарыя, адпаведна якому запрашаць гасцей на свята і адкрываць яго будуць "кум ды кума" — народная артыстка Расіі Н. Бабкіна ды наш А. Ярмоленка. Цэнтрам усіх імпрэзаў будзе, як заўсёды, Магілёў, але пройдуць яны і па іншых мясцінах. Урачыстае закрыццё плануецца ў сталіцы, на сцэне Палаца Рэспублікі. А магілёўцы, апроч адкрыцця і шэрагу праграм, рыхтуюць і свята свайго горада — маўляў, каб было не горш за віцебскае на "Славянскім базары"...

**Я. КАРЛІМА**

ТЭАТР

## З ЧЭХАВЫМ — НЕ СКОНЧАНА!

Зусім нядаўна Беларускі дзяржаўны тэатр лялек, які сёлета святкуе 65-гадовы юбілей, удзельнічаў у двух буйных міжнародных фестывалях тэатраў лялек. Спектакль "Ганеле" Г. Гаўптмана быў разыграны ў рамках V Міжнароднага фестывалю тэатраў лялек у Магдэбургу (Германія), на якім Беларусь была адзіным прадстаўніком з краін СНД, а таксама Міжнародным фэсце "Кукарт" у Санкт-Пецярбургу (Расія). Як паведаміў карэспандэнту "Минского курьера" галоўны рэжысёр тэатра Л. Ляляўскі, у вышэйзгаданых тэатральных фестывалях павінен быў удзельнічаць іншы спектакль — "З Парыжам, скончана!.." паводле "Вішнёвага саду" А. Чэхава, але па прычыне маштабнасці гэтай пастаноўкі (патрэбны дзень, каб толькі ўстапяваць дэкарацыі) паехаў "Ганеле". І, можа, крышачку шкада, бо спектакль "З Парыжам, скончана!.." здаецца адным з самых цікавых, арыгінальных пастановак Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек, які ўпрыгожвае ягоны рэпертуар ужо два сезоны. Праўда, праца з п'есамі Чэхава ў А. Ляляўскага працягваецца. Сёння рэжысёр рэпеціруе спектакль "Чайка", ідэя пастаноўкі якой узнікла яшчэ ў 80-х гадах ("п'еса добрая: аб шчырых адносінах да самога сябе"). У новым спектаклі Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек мусяць сыграць заслужаны артыст РБ У. Грамовіч, акцёры В. Пражэева, А. Васько і многія іншыя.

**В. Б.**





Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| галоўны рэдактар — | 284-6673 |
| намеснік галоўнага рэдактара — | 284-4404 |
| адказны сакратар — | 284-6673 |

**АДДЗЕЛЫ:**

| | |
|---|---|
| публіцыстыкі — | 284-7965 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7965 |
| літаратурнага жыцця — | 284-7965 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7965 |
| паэзіі і прозы — | 284-7965 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва — | 284-7965 |
| карэктарская — | 284-8091 |
| бухгалтэрыя — | 284-6672 |
| Тэл./факс — | 284-84-61 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1536
Нумар падпісаны ў друк 6.08.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3172

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12